Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4730) 16 жніўня 2013 г.

## Пункціpам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным, блізкім і калегам пісьменніка, журналіста, лаўрэата Ленінскай прэміі Васіля Пяскова ў сувязі з яго смерцю. «Чалавек вялікага таленту і невычэрпнай творчай энергіі, Васіль Міхайлавіч пакінуў яркі след у расійскай культуры, экалогіі і журналістыцы, — гаворыцца ў спачуванні. — У шматлікіх кнігах, нарысах і тэлеперадачах ён падымаў вострыя праблемы ўзаемаадносін чалавека з прыродай, захавання для цяперашніх і будучых пакаленняў багаццяў Зямлі».

✔ Інтэрнэт-партал СМІ Беларусі будзе канчаткова здадзены ў эксплуатацыю ў бягучым годзе. Пра гэта ў Гродне падчас «круглага стала» з удзелам прадстаўнікоў Беларускага саюза журналістаў і дэлегацыі журналістаў з Украіны паведаміла першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Міністэрства інфармацыі завяршае працу над стварэннем адзінага беларускага партала СМІ. Мяркуецца, што, карыстаючыся ім, можна будзе выйсці на сайт любой газеты, тэле- і радыёканала, інфармагенцтва і лёгка знайсці ўсе праекты, над якімі працуюць беларускія СМІ, а таксама блогі журналістаў. У тым ліку плануецца зрабіць магчымай падпіску на выданні праз інтэрнэт.

✔ Фестываль Саюзнай дзяржавы «Творчасць юных» адбудзецца ў Анапе з 19 па 26 жніўня. Ён збярэ на чарнаморскім узбярэжжы каля 130 маладых дараванняў з самых розных рэгіёнаў Расіі і Беларусі. Традыцыйна ў фэсце бяруць удзел таленавітыя дзеці і моладзь ад 7 да 18 гадоў, якія ўжо з'яўляюцца пераможцамі нацыянальных і рэгіянальных творчых конкурсаў. На форуме будзе прадстаўлена вакальнае, харэаграфічнае, цыркавое, інструментальнае і іншыя віды мастацтваў. У кожным жанры будуць свае лаўрэаты фестывалю, заснавальнікамі якога з'яўляюцца Парламенцкі Сход Саюза Беларусі і Расіі, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, міністэрствы культуры Беларусі і Расіі.

✔ Гран-пры міжнароднага тэатральнага фестывалю «Васара-2013» («Лета-2013») атрымаў спектакль «Пікавая дама» Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Фэст, які праходзіў пад патранатам Рымаса Тумінаса, мастацкага кіраўніка Маскоўскага тэатра імя Вахтангава, адбыўся ў літоўскім горадзе Друскінінкай. Тэма конкурсу — «Класіка і ХХІ стагоддзе». Міжнароднае журы абвясціла ўладальнікаў 11 намінацый, а таксама лаўрэата прыза сімпатый гледачоў. Было паказана 13 спектакляў, прадстаўленых тэатрамі Масквы, Санкт-Пецярбурга, Арэнбурга. Акрамя таго, у конкурснай праграме ўдзельнічалі калектывы з Арменіі, Беларусі, Літвы і Малдовы.

✔ Рэспубліканская навукова-асветніцкая экспедыцыя «Дарога да святыняў», прымеркаваная да ХХ Дня беларускага пісьменства, адправіцца з Мінска 28 жніўня. Экспедыцыя з жыватворным агнём ад Труны Гасподняй пройдзе па маршруце Мінск — Святое Поле каля вёскі Загор'е — вёска Сталовічы Брэсцкай вобласці — горад Стоўбцы, пасёлак Міханавічы Мінскай вобласці — гарадскі пасёлак Круглае, горад Дрыбін — вёска Расно — горад Чавусы — вёскі Гамарня і Баркалабава Магілёўскай вобласці і 1 верасня прыбудзе ў Быхаў, які сёлета прымае Дзень беларускага пісьменства.

**Падрыхтавала Міра ІЎКОВІЧ**



# Самы экстравагантны!


*Фота з асабістага архіва Уладзіміра Пракапцова*

8 жніўня з раніцы да позняга вечара Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ўрачыста святкаваў двайны юбілей — 60-годдзе з дня нараджэння і 15-годдзе на пасадзе свайго генеральнага дырэктара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, мастака Уладзіміра Пракапцова.

Уладзімір Іванавіч — цікавы і неардынарны чалавек, які творча падыходзіць да многіх пытанняў і спраў. Так, дзень сваіх юбілеяў ён распачаў раніцай а 8-й гадзіне 8-й хвіліне 8-й секундзе. Спачатку прайшла арыгінальная працэдура: да мастака паднеслі раму ад карціны Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Трэба прызнаць, спадар Пракапцоў у рамцы глядзеўся вельмі эпатажна. Затым былі прыгожыя віншавальныя прамовы, кветкі і падарункі ад прадстаўнікоў Міністэрства культуры, прэсы і ўсіх прысутных.

Шчодра і крэатыўна павіншаваў свайго дырэктара родны калектыў. Супрацоўнікі выканалі даўнюю мару Уладзіміра Іванавіча — зрабілі з яго венскага акна (адзінага ва ўсім горадзе) квітнеючы балкон з петуніямі, якія трэба паліваць праз дзень. Пра апошняе юбіляр паабяцаў не забывацца.

Але галоўнай падзеяй раніцы было ўрачыстае гашэнне маркі імя Уладзіміра Пракапцова. У вялікім канверце з лічбай 60 і маркай з аўтапартрэтам мастака ляжалі квіткі на самалёт у Іерусалім — вандроўка да Мёртвага мора.

Юбілей «бясконцасці» працягваўся і ўвечары: а 8-й гадзіне 8-й хвіліне і 8-й секундзе ў холе музея адбылося афіцыйнае святкаванне. З віншавальнымі словамі выступілі першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік, старшыня Мінскага гарвыканкама Мікалай Ладуцька, настаяцель мінскага Усіхсвяцкага прыхода протаіерэй Фёдар Поўны і іншыя — 8 вялікіх віншаванняў, але далёка не па 8 секунд.

Айцец Фёдар жартам параўнаў У. Пракапцова з музейным экспанатам: немагчыма ўявіць сабе Нацыянальны мастацкі музей без «самага экстравагантнага дырэктара ў свеце»!

**Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶**


*Уладзімір Пракапцоў «Банька», 2003. Кардон, алей.*

З нагоды

# Чытаем Коласа. Удумліва

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

13 жніўня споўнілася 57 гадоў са дня смерці Якуба Коласа.

Сярод апошніх радкоў, напісаных паэтам, быў знойдзены верш:

*Я хворы. Спяшаецца сэрца*
*Адстукаць свой май.*
*Зачыняцца ў свет мае дзверцы,*
*Якубе, зважай!*
*Прыпамятай, покі не позна,*
*Ці ўсё ты зрабіў…*

Верш так і застаўся недапісаным.

13 жніўня на Вайсковых могілках сталіцы адбыўся памінальны мітынг і ўскладанне кветак да помніка паэта. У гэты дзень сабраліся пісьменнікі і грамадскія дзеячы, нашчадкі Якуба Коласа, навукоўцы і супрацоўнікі мінскіх музеяў.

Зноў і зноў гаварылася пра тытанічны ўклад аўтара «Новай зямлі» ў развіццё нашай культуры, у прыватнасці — мовы і літаратуры. Але пра ўклад і так вядома. Значна большай увагі заслугоўвае іншае пытанне: а што зрабілі для сваёй краіны мы? Кажучы словамі Коласа — «ці ўсё ты зрабіў?»

Зінаіда Камароўская, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, зачытала апошнія лісты пісьменніка, што пісаліся перад самай смерцю, за працоўным сталом, які і цяпер стаіць у кабінеце класіка. Каштоўнасць іх не толькі дакументальная. Дзякуючы гэтым лістам мы дакладна ведаем, пра што дбаў Якуб Колас у апошнія гадзіны жыцця. У адным, адрасаваным перакладчыку Сяргею Гарадзецкаму, пісьменнік жаліцца на саслабелае здароўе і ўсё адно — плануе выдаць кнігу казак. Рускаму літаратуразнаўцу Яўгену Мазалькову Колас даводзіў: «Вы павінны расцэньваць мяне не як паэта, пісьменніка, а як супрацоўніка канцылярыі ў яе розных галінах. Гэта мяне і ўзвышае, і зніжае. Бо я паэт на 50%. А дзе астатнія 50%, Вы, думаю, ведаеце». Відаць, гэтыя другія 50% і паскорылі сыход Коласа, зрабіўшы дзень 13 жніўня днём жалобы.


Фота Кастуся Дробава

Падчас памінальнага мітынгу на Вайсковых могілках.

Як бы ў адказ на пытанне «ці ўсё ты зрабіў?» спадарыня Зінаіда распавяла пра новую акцыю, распачатую музеем, — праект «Ідзём у школу разам з Коласам».

Актуальную праблему — забранзавенне і, як наступства, забыццё класікаў — закрануў у прамове пісьменнік Анатоль Бутэвіч:

— Ці ведаем мы Коласа? У адказ большасць адкажа: «Так, мы праходзілі яго ў школе». Але словы «праходзілі» вельмі небяспечнае, бо ў тым і яго сэнс: праходзіш, праходзіш — і пройдзеш міма. Трэба чытаць, і чытаць удумліва.

Слова бралі пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, Дзмітрый Дзямідовіч, Уладзімір Мазго. Вельмі значнай уяўляецца прамова малодшага сына Якуба Коласа — Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча. Ён яшчэ раз падкрэсліў унёсак бацькі ў развіццё беларускай мовы, выказаў меркаванне, што менавіта яна — найпрыгажэйшая са славянскіх і адна з самых мілагучных у Еўропе, а таксама ацаніў працу людзей, якія вывучаюць творчасць і біяграфію Якуба Коласа. Так, Міхась Канстанцінавіч вылучыў тры кніжныя падзеі: 20-томны збор твораў Коласа, дзе тэксты друкаваліся без правак савецкага часу, кнігу «Колас: вядомы і невядомы» Анатоля Трафімчыка (ён таксама прыйшоў ускласці кветкі) і кнігу ўспамінаў «Якуб Колас у думках, у сэрцах, у песнях», укладальнік якой — сам Міхась Міцкевіч.

Форум

## Мінск — сталіца славістыкі

З 20 да 27 жніўня ў Мінску будзе праходзіць XV Міжнародны з'езд славістаў. Каб прадставіць вынікі сваіх даследаванняў, прыняць удзел у абмеркаванні актуальных пытанняў галіны і проста бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай, у сталіцу прыедуць больш як 600 навукоўцаў з 35 краін свету. У якасці арганізатараў форуму выступілі Міжнародны камітэт славістаў, Беларускі камітэт славістаў, а таксама Нацыянальная акадэмія навук Беларусі.

Адметна, што І Міжнародны з'езд славістаў прайшоў у 1929 годзе ў Празе, з таго часу раз на пяць год міжнародны форум прымае адна са славянскіх краін. У Беларусі такі з'езд пройдзе ўпершыню, таму цалкам заканамерна, што яго арганізацыя праходзіць на самым высокім узроўні пад патранатам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У праграме з'езду — сотні дакладаў, прысвечаных розным аспектам вывучэння славянскіх моў і культур, тэматычныя дыскусіі. Таксама ў межах навуковага форуму пройдуць два вялікія «круглыя сталы»: «Скарыніяна ў славянскім і еўрапейскім кантэксце» і «Тарас Шаўчэнка: нацыянальнае вымярэнне і сусветны кантэкст (да 200-годдзя з дня нараджэння)». У памяшканні Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, дзе і будуць адбывацца асноўныя мерапрыемствы форуму, размесціцца выстаўка славістычных выданняў, дзе будуць прадстаўлены кнігі па славістыцы, выдадзеныя ў розных краінах свету.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Самы экстравагантны!

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Лагічным завяршэннем вечара было адкрыццё выстаўкі жывапісных работ Уладзіміра Пракапцова «Струны прасторы і часу», у межах якой прайшла прэзентацыя кнігі Барыса Крэпака «Квадрыга жыцця», прысвечаная жыццю і творчасці мастака.

Як адзначыў доктар мастацтвазнаўства Валерый Жук, сама ідэя арганізацыі выстаўкі — арыгінальная мастацкая акцыя. Аўтар хацеў паказаць і перадаць адчуванне сваёй творчасці ў часе, вызваленым ад звыклых стэрэатыпаў і традыцыйных рытуалаў. Ён застаўся ў душы рамантыкам, нягледзячы на службовае і грамадскае становішча, якое, безумоўна, патрабуе пэўнага прагматызму. Жывапіс для яго — гэта спосаб і магчымасць выказаць на палатне напружанасць сваіх пачуццяў і думак. І дадаў:

— Карціны Уладзіміра Пракапцова — сплаў суб'ектыўна-лірычнага і рацыянальна-прагматычнага пачаткаў. Гэта еднасць дапамагае стварэнню паўнакроўных вобразаў, робіць іх эстэтычна важкімі. Арганізатар і аналітык дае яму магчымасць стварыць кампазіцыю, напоўніць яе сэнсам. А лірык і рамантык укладае ў яе эмоцыі, душэўную цеплыню, што робіць вобраз шматгранным. Абедзве гэтыя іпастасі не перашкаджаюць адна адной, яны ўмела збалансаваны і гарманічна ўраўнаважаны.

Прадстаўленыя на выстаўцы творы аўтара з 1973 года па сённяшні дзень — сведчанне сталага творчага пошуку і самаўдасканальвання. Уладзімір Пракапцоў пашырае гарызонты, яго мастацкае бачанне набывае рысы ўніверсальнасці. Менавіта ў мастацкіх творах і выяўляецца сапраўдная асоба іх аўтара, паколькі тут ён найбольш непасрэдны і шчыры. Стварачы ўяўны свет на аснове рэчаіснасці, свет, у якім жыве яго душа, мастак паўстае ў сваім праўдзівым абліччы.

Арганізатары святочных урачыстасцей вырашылі пайсці да канца, абыгрываючы васьмёрку, таму выстаўка будзе доўжыцца 8 дзён 8 гадзін 8 хвілін 8 секунд.

**Таццяна ШЫМУК**

Палітра

# Святло Меноры


Фота Наталлі Купрэвіч

Тас — таблічка для аздаблення скрутка торы XIX ст.

Нацыянальны гістарычны музей азарыла святло Меноры. Старазапаветны сямісвечнік (галоўны элемент герба сучаснай яўрэйскай дзяржавы) даў назву новай выстаўцы «Пад знакам Меноры. З гісторыі яўрэйства на Беларусі», прысвечанай 90-гадоваму юбілею дзеючага Прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Шымона Перэса і 100-годдзю з дня нараджэння былога Прэм'ер-міністра Ізраіля Менахема Бегіна.

Менавіта беларуская зямля стала месцам, дзе нарадзіліся гэтыя вядомыя дзяржаўныя дзеячы. Фотаматэрыялы, якія спецыяльна былі прывезеныя з Ізраіля, знаёмяць наведвальнікаў з біяграфіямі Шымона Перэса і Менахема Бегіна. Арыгінальныя рэчы яўрэйскага быту, рытуальныя прадметы з калекцый Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі дапамагаюць адчуць атмасферу яўрэйскага мястэчка першай трэці ХХ стагоддзя, распавядаюць пра заняткі, культуру і вераванні яўрэяў на Беларусі.

Выстаўка, створаная пры падтрымцы Пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь і Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі, працягнецца да 1 верасня.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

Цікава ведаць

## Стары горад на паштоўках

Выстаўка «Мінск на старых паштоўках» працуе ў Музеі гісторыі горада Мінска. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 50 фотакопій паштовак з відамі горада канца ХІХ — пачатку ХХ стагоддзяў.

**Святлана СТРОК**

У гэты перыяд іх выпускалі прыватныя выдавецтвы. Выходзілі паштовыя карткі серыямі — па некалькі дзясяткаў сюжэтаў, а друкаваліся са здымкаў мясцовых фатографаў. Тыражы былі невялікімі. Купіць паштоўкі можна было не толькі ў кнігарнях і кіёсках, але і непасрэдна ў фатаграфічных майстэрнях.

Калекцыі старых паштовак данеслі да нас самыя разнастайныя сюжэты. Фатографы імкнуліся адлюстраваць не толькі архітэктуру, але і паўсядзённае жыццё, этнаграфічнае аблічча горада. На картках можна ўбачыць мінчукоў самых розных саслоўяў, апранутых па тамтэйшай модзе. Вось — конка і сялянскі воз, дыліжанс возчыка і першы аўтамабіль…

Дакументальна зафіксаваны выгляд як вуліц, так і асобных будынкаў. Гэта помнікі культавай архітэктуры, заводы, гімназіі, установы, якіх даўно ўжо няма. Таму старыя мінскія паштоўкі сёння каштоўныя дакументы па гісторыі горада.

## Новы фармат

# Украіна, родная Беларусі

**Працягам серыі «Сугучча сэрцаў», у якой ужо пабачылі свет кнігі, дзе поруч з творамі беларускіх паэтаў і празаікаў прадстаўлены і здабыткі казахскіх, азербайджанскіх, рускіх, армянскіх пісьменнікаў, стаў «украінскі» том.**

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

«Залатая струна» — так называецца чарговы томік літаратурнага пабрацімства. Сучасную ўкраінскую літаратуру прадстаўляюць вершы і апавяданні Барыса Алійніка, Аляксея Кананенкі, Віктара Баранава, Алесі Сандыгі, Галіны Тарасюк, Надзіі Сцяпулы, Тэадозія Зарыўны, Міхайлы Слабашпіцкага, Паўла Моўчана, Уладзіміра Даніленкі, Валянціны Давыдзенкі, Сяргея Грабара, Міхаіла Шаўчэнкі, Любові Галоты, Ганны Баграны. Кнігу дапаўняе беларускі раздзел — творы Васіля Быкава, Алеся Пісьмянкова, Алеся Жука, Зінаіды Дудзюк, Вітаўта Чаропкі, Вадзіма Спрынчана, Алеся Бадака, Таццяны Сівец. У кожнага з пісьменнікаў — свая тэма, свой мастацкі выбар. І ўсё ж кніга аб'ядноўвае, з'яўляецца ў значнай ступені сімвалічнай. Найперш таму, што сабраны разам творы, напісаныя ў апошнія дваццаць гадоў пасля таго, як быў развалены Савецкі Саюз і была створана Садружнасць Незалежных Дзяржаў.

Украінская частка кнігі адкрываецца палымянымі, завострана грамадзянскімі вершамі Барыса Алійніка, Героя Украіны. Ёсць у падборцы знакамітага майстра і верш «Беларусі»: «Той березы… Четвертая — стала огнем. / О, прости! / Ты прости мою память, / хотя не прощай ее лучше… / Будут вёсны любимым зелёные письма нести, / но один адресат никогда уже их не получит. / Стал я сед, словно лось. / Стал я бел, будто ядерный дым. / На обугленный мир мои очи дождями упали. / Ты простила б, как мать, / эту страшную память, Хатынь, / Но — коль ты сожжена — / кто же будет прощать эту память?»

У Беларусі і Украіны, у беларускай і украінскай літаратур надзвычай шмат агульнага. Пра гэта сведчаць многія і многія творчыя акцыі, дзясяткі кніг украінскіх паэтаў і празаікаў, выдадзеныя па-беларуску, цэлая бібліятэка беларускага прыгожага пісьменства на ўкраінскай мове. Можна прыгадаць імёны яркіх беларускіх творцаў, для якіх украінская літаратура была сапраўднай




крыніцай натхнення. Як таленавіты перакладчык Тараса Шаўчэнкі выявіў сябе і народны пясняр Якуб Колас. Кнігі Платона Варанько, Дзмітрыя Белавуса,

*Золотая струна: сборник произведений писателей Беларуси и Украины / сост. Алесь Бадак; предисл. Алеся Карлюкевича. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 256 с. — (Созвучие сердец).*

Багдана Чалага, паэму Міколы Нагнібяды «Званы Хатыні» пераўвасобіў на нашу мову Анатоль Вялюгін. Дарэчы, ён жа склаў і анталогію «Дзень украінскай паэзіі». Шмат зроблена для прадстаўлення ўкраінскай паэзіі ў Беларусі Хведарам Жычкам, Аляксеем Зарыцкім, Алесем Звонакам, Васілём Зуёнкам, Рыгорам Барадуліным…

Кніга «Золотая струна», якая прадстаўляе ўкраінскую літаратуру ў Беларусі на рускай мове, відавочна, яшчэ і напамін, што варта выдаць сучасную паэзію і прозу самых блізкіх суседзяў і па-беларуску. Мо следам за серыяй «Сугучча сэрцаў» запачаткуецца і праект з разлікам якраз на такі падыход.

## Стасункі

# Паядналіся Магілёў з Новасібірскам

**Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы заключыў пагадненне аб супрацоўніцтве з Новасібірскім цэнтрам беларускай культуры.**

**Вольга СЕМЧАНКА**

Гэта дазволіць аб'яднаць творчыя сілы для вырашэння задач па захаванні і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны, раскрыцці выхаваўчага і адукацыйнага патэнцыялу традыцыйнай народнай культуры. Між іншым, супрацоўніцтва двух цэнтраў працягваецца больш як дзесяць год. Нядаўна ў рамках II міжрэгіянальнага свята льну, якое ладзілася ў раённым пасёлку Масляніна Новасібірскай вобласці, спецыяліст Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра, народны майстар Наталля Дамянікава правяла семінар і майстар-клас па аб'ёмным пляценні з саломкі. Многія ўмельцы з Новасібірскай вобласці ўсур'ёз зацікавіліся традыцыйным беларускім мастацтвам і плануюць у далейшым перадаць набытыя навыкі сваім вучням.

У сваю чаргу, расіяне наведваюць Магілёўшчыну ў межах розных мерапрыемстваў. Напрыклад, сёлета ансамбль народнай песні «Каласок» Тэатра народнай песні Новасібірскага цэнтра беларускай культуры і яго юныя салісты, а таксама дзіцячы ансамбль народнай песні і танца «Даровица» з Новасібірскай вобласці ўзялі ўдзел у міжнародным фестывалі дзіцячай творчасці «Залатая пчолка» ў г. Клімавічы.

Плённае культурнае супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі стала магчымым у многім дзякуючы дырэктару Новасібірскага цэнтра беларускай культуры Ніне Кабанавай, якая нарадзілася ў вёсцы Лазаравічы Быхаўскага раёна. Пераехаўшы ў 1977 годзе ў Сібір, Ніна Васільеўна не забылася на свае карані і актыўна прапагандуе беларускую



*Наталля Дамянікава праводзіць у Новасібірску семінар па саломапляценні.*

культуру. У 2000 годзе ўзначаліла створаны ў Новасібірску цэнтр беларускай культуры і з таго часу з'яўляецца яго нязменным кіраўніком. Цэнтр актыўна захоўвае і папулярызуе беларушчыну: створаны дзясяткі творчых калектываў, дзе дарослыя і дзеці займаюцца беларускім фальклорам, танцамі, ладзяцца фестывалі беларускай культуры, праводзяцца фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі дзеля апісання побыту і традыцый беларусаў-перасяленцаў.

Магілёўскі абласны метадычны цэнтр актыўна наладжвае міжнародныя культурныя сувязі па розных геаграфічных напрамках. Напрыканцы мінулага года заключана пагадненне аб супрацоўніцтве з Навукова-метадычным Цэнтрам па культуразнаўстве Міністэрства культуры і турызму Азербайджана, а тры месяцы таму — з Цэнтрам народнай культуры Літвы ў Вільнюсе.

# Яе «Чароўны свет»



У студзені 2013 года адзначала свой 80-гадовы юбілей вядомая мастачка, выдатны ілюстратар беларускай кнігі Алена Лось, дзіцячыя і юнацкія гады якой былі звязаны з вёскамі Лыскава і Магілёўцы, пасёлкам Ружаны, што ў Пружанскім раёне.

Менавіта да гэтай падзеі ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык» была адноўлена выстаўка «Чароўны свет Алены Лось», дзе шырока прадстаўлены беларускамоўныя кнігі, багата аздобленыя ілюстрацыямі майстра, яе жывапісныя і графічныя работы.

Вялікі збор кніг і мастацкіх твораў Алены Георгіеўны быў набыты музеем у 2008 годзе. Менавіта падчас першага адкрыцця выстаўкі мастачка пасля доўгага перапынку наведала Пружаны і Ружаны, пазнаёмілася з аматарамі сваёй творчасці на радзіме.

На вялікі жаль, у апошнія гады творца многа хварэла. Але заўсёды цікавілася весткамі з малой радзімы, радавалася, калі да яе завіталі госці з Пружаншчыны, званіў тэлефон. Аднак было гэта не вельмі часта. Віншуючы юбілярку з днём нараджэння, супрацоўнікі музея спадзяваліся на новую сустрэчу, а яна адказала: «Ужо працую мала. Прыязджайце, пагаворым». На жаль, не паспелі.

Яшчэ зусім нядаўна падчас экскурсій і лекцыйных заняткаў на пытанне, ці працуе мастачка цяпер, гучаў адказ: «Так, яна жыве і працуе ў Мінску». Сёння адказ зусім іншы: «Яна нядаўна пайшла з жыцця». Але памяць пра гэтага светлага чалавека застанецца назаўсёды. Таму што застаўся яе «чароўны свет» — самабытныя цікавыя вобразы, увасобленыя ў кнігах і на палотнах, вобразы, поўныя любові і цеплыні, шчырасці і радасці.

**Наталія ПРАКАПОВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне Старшыні Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзіміру Гаўрыловічу з прычыны смерці МАЦІ — Яўгеніі Ігнатаўны.

## Абрысы

Электронная бібліятэка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ўвайшла ў першую сотню лепшых бібліятэк свету. Паводле апошніх дадзеных Сусветнага вебаметрычнага рэйтынгу «Webometrics Ranking of World Universities», яна паднялася на 31 пазіцыю і заняла 97-е месца. Гэта першы ў Беларусі паказчык такога ўзроўню. Фундаментальная бібліятэка БДУ рэгіструе ў сусветных базах дадзеных паўнатэкставых навуковых публікацый, вучэбных і метадычных матэрыялаў вучоных і выкладчыкаў універсітэта, а таксама часопісаў, якія выдаюцца ў БДУ. Акрамя таго, тут укаранілі працэс пераводу дакументаў, якія ёсць у фондзе, у электронны фармат, што з часам дазволіць зрабіць іх даступнымі для ўсёй сусветнай супольнасці.

Фотавыстаўка, прысвечаная 1025-годдзю хрышчэння Русі, праходзіць у Віцебскім абласным краязнаўчым музеі. Аўтар работ — протаіерэй Аляксандр Захараў — закаханы ў свой горад і ўпэўнены: адметную прыгажосць Віцебску надаюць храмы, якія заўсёды ўзводзіліся з радасцю і натхненнем. Прадстаўленыя фотаздымкі адметныя тым, што старажытныя цэрквы паказаныя з высокіх кропак горада. Гэта званіца Успенскага сабора, вежы Ратушы і аблвыканкама, самыя высокія будынкі ў розных кутках горада.

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь запрашае на выстаўку «Век Багатырова», якая прысвечана 100-гадоваму юбілею народнага артыста Беларусі. Анатоль Васільевіч належыць да першага пакалення беларускіх кампазітараў, творчасць якіх фарміравалася ў рэчышчы сучаснага музычнага мастацтва. Найбольш значныя творы — оперы «У пушчах Палесся» і «Надзея Дурава». Маэстра — аўтар музыкі да пастановак драматычных тэатраў «Шчасце паэта» В. Віткі, «Над Бярозай-ракой» П. Глебкі, «Позняе каханне» А. Астроўскага, «Снежная каралева» Я. Шварца, а таксама да радыёпастановак «Мцыры» паводле М. Лермантава. На выстаўцы прадстаўлены фотаздымкі А. Багатырова і сцэны з розных спектакляў, партытуры, напісаныя рукой кампазітара, клавіры опер і ўзнагароды народнага артыста.

Выстаўка «Востраў белых птушак» Анжалікі Шабалтас працуе ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі. Тэхніка пісьма гэтай мастачкі дакладна перадае складаны, неверагодна тонкі ўнутраны свет аўтара, напоўнены сімваламі, вобразамі, знакамі, метафарамі. Назвы карцін гавораць самі за сябе: «Птушкі, вазьміце мяне з сабой», «Шчырасць заказанага блазна» і інш. Вобраз дзяцінства ў асобе дачкі аўтара, які часта сустракаецца на палотнах Анжалікі, неверагодна прыгожы і пластычны. Летнія плады — яблыкі, вінаград, лісце раслін — не адпускаюць і зачароўваюць гульнёй формаў, кветак і адценняў. У экспазіцыі прадстаўлена 32 карціны.

# Лекі ад абыякавасці

Здараецца, пра беларускую літаратурную крытыку размаўляюць у стылі: «Пацыент хутчэй жывы ці мёртвы?» Але няма сэнсу ўтрыраваць, тым больш, што ёсць нагода для прадметнай гаворкі. Выхад новай кнігі Ігара Запрудскага «Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі», з аднаго боку, пацвярджае жывасць і жвавасць крытыкі і, адпаведна, літпрацэсу, з другога, усё ж змушае ацаніць стан «пацыента».

**Алена КАРП**

Забягаючы наперад, сярод іншых сімптомаў: наклад безумоўна вартай кнігі абмяжоўваецца ста асобнікамі, а патэнцыйныя чытачы *любога* зборніка крытычных артыкулаў пераважна знаёмыя асабіста. Перабольшваю, натуральна, але…

Якое дачыненне мае да гэтага аўтар? Ніякага. Аднак будучы разумным чалавекам усведамляе і такую праблему і намагаецца, прытым мае рэальныя шанцы, пераадолець замкнёнае кола. Напрыклад, прыдумаўшы сімпатычную, кідкую, з адсылкай да В. Дуніна-Марцінкевіча назву «Не цікавішся — не чытай». Але стаўленне да навуковых выданняў у нас даволі кансерватыўнае, таму назваў стаў падзагаловак. Ад кнігі ж, на вокладцы якой ёсць слова «метафізіка», наўрад ці варта чакаць успамінаў пра тое, як два студэнты запрашалі на піва Караткевіча. Больш палахлівы чытач не чакае нават уцямнай, яснай мовы. А ўсё гэта тут ёсць.

***

Песімісты ўжо пахавалі беларускую літаратурную крытыку, аптымісты горача і небеспадстаўна даводзяць, што яшчэ жывая. Але што б ні дэкларавалася гучна, напэўна, сам-насам усе зацікаўленыя разумеюць, што яна ў нас калі не хворая, то хваравітая. Найбольш адказныя ўдзельнікі працэсу спрабуюць даўмецца прычын. Так, Ігар Запрудскі абазначае бадай усе болевыя кропкі. І гэта не ілюстрацыя да прыказкі пра парушынку ў чужым і бервяно ў сваім воку. Яго ўласная творчая практыка дэманструе тыя якасці, якіх вельмі часта бракуе нашай крытыцы.

«І крытыкам катэгарычна забаронена быць сумнымі». Ігар Запрудскі практыкуе «рэальную» крытыку, што ўжо само па сабе не сумна. «Рэальная» — гэта і ёсць тая праўдзівая, бескампрамісная, па гамбургскім рахунку, пра якую так шмат гавораць, якой і хочацца і колецца. Такі падыход патрабуе ад аўтара сумленнасці (а яна не толькі ў тым, каб не схлусіць, а і ў тым, каб не прамаўчаць хоць частку мулкай, нязручнай праўды) і смеласці ісці супраць плыні. Вынік — крытыка, якая можа быць сапраўды небескарыснай, калі б толькі ўдзельнікі працэсу мелі жаданне прыслухацца.

А аўтара цікавіць менавіта працэс, ва ўсёй яго разнастайнасці, з усімі яго балячкамі, якія пры правільнай дыягностыцы небезнадзейныя. Напэўна. Ці не занадта вялікі клопат для аднаго чалавека — вадзіцца з усім гэтым працэсам — літаратурай, крытыкай ды яшчэ і школьнай праграмай? А можа, мы проста адвыклі ад шырокіх кантэкстаў, ад таго, што літаратура — нешта большае, чым вымкнутая з жыцця прыгожая забаўка. Ва ўсякім разе ахвотнікаў брацца за гэты шырокі абсяг, думаць глабальна і *прадметна*, а падумаўшы, агучваць без эўфемізмаў — небагата. І калі нехта бярэцца рэалізоўваць прынцып «калі не я, то хто», пачуваецца вольным грамадзянінам і бярэ на сябе адказнасць, то гэта можна толькі вітаць. Так, Ігар Запрудскі ўдзельнічае ў палеміках нават тых, што выходзяць за межы літаратуразнаўства (і менавіта таму, што выходзяць), нават тады, калі аргументы апанентаў выглядаюць гратэскна, бо «ў старажытных Афінах свабодным грамадзянам забаранялася ўхіляцца ад публічных дыскусій». Гэтая няўдзячная практыка мае адну перавагу: падаецца, кожны даследчык літаратуры ўмацоўвае свой аўтарытэт не тады, калі ўдае ўсёразуменне, а акурат тады, калі выяўляе і бароніць сваю пазіцыю. Прытым павагу, заробленую прынцыповасцю і грамадзянскай мужнасцю, наўрад ці пахіснуць пэўныя разыходжанні з поглядам аўтара.

Канкрэтна: асабіста мяне ў артыкуле «БАДАЙ (парадоксы мястачковасці ў сучаснай рускай літаратуры на Беларусі)» бянтэжыць вызначэнне «руская літаратура на Беларусі», як і тэзіс пра тое, што гэтак званай у курсе «Руская літаратура» ў беларускіх школах мусіць аддавацца перавага над творамі, напрыклад, Маканіна, Петрушэўскай, Даўлатава і Жыгуліна. Ці руская літаратура сапраўды прапісала ў сябе беларускіх рускамоўных пісьменнікаў? Ці ведаюць рускія літаратуразнаўцы пра з'яўленне новых аўтараў? Ці не выглядае такая сітуацыя (беларускія творы ў курсе «Руская літаратура») як народнае «без мяне мяне жанілі»?

Тым больш аўтар сам пратэстуе супраць выгнання творчасці Івана Буніна з універсітэцкай праграмы і выкарыстання службовых паўнамоцтваў для таго, каб уплішчыцца ў вечнасць. У такім кантэксце меркаванне пра прыярытэтнасць беларускіх аўтараў у курсе «Руская літаратура» выглядае тым больш блытана. Але, калі не чапляцца да прыватных момантаў («…бывае цяжка знайсці парушынку ў воку, калі нельга знайсці ў ім бервяна»), трэба прызнаць, што пазіцыя Ігара Запрудскага выглядае слушнай і




выкладзенай пераканаўча, абгрунтавана і лагічна.

З іншага боку, жаданне спрачацца і ёсць выяўленнем той неабыякавасці, да якой імкнецца крытык. І калі вы з запалам шукаеце контраргументаў пэўнаму артыкулу, то вось яно, мэта дасягнута. Праўда, з увагі на тое, што «кніга змяшчае значную частку напісанага амаль за дваццаць гадоў» і цягам гэтага часу «погляд на літаратуру паступова трансфармаваўся», такая прыватная палеміка можа апынуцца спробай злавіць рукамі вецер. Бо ўсе контраргументы ўжо агучаныя самім аўтарам.

У артыкуле «ПостСАПРАЎДЫ, або БАДАЙ-2» ён марыць пра беларускага Героя Мінулага і Сучаснасці, якога б палюбілі, і нават тлумачыць, адкуль такі герой мог бы ўзяцца. Хоць выдатна разумее, што літаратура не ствараецца паводле гатовых, хай сабе і ўдалых, матрыц: «Рэцэптаў процьма. І ўсе маладзейсныя. Пакуль не ўкусіць уласная вош, ніхто не варухнецца»; «Эксплуатацыя няздарамі добравядомых прыёмаў масавай літаратуры прыводзіць часта да звычайнай прафанацыі папулярных жанраў, а бывае, і да дэградацыі ў нізкавартасную серыйную прадукцыю…» Хоць добра помніць пра станоўчага героя сацрэалізму і ўсведамляе: «Маладыя, іх яшчэ не выведзеная нацыянальным Майсеем з пустэльні грамада, толькі і могуць прапанаваць свайго Героя. А ён, прадбачу, не спадабаецца ні аўтару, ні мне, ні іншым савецкім дзяўчынкам і мальцам з пасівелымі ўжо скронямі і СВАІМ бачаннем жыцця». І ўрэшце гатовы (ці быў гатовы?) пагадзіцца: «У нас памёр станоўчы герой. Дайце нестаноўчага, але *жывога*». Вось так, калі зменшыць апетыты і вярнуцца ад мрой да рэчаіснасці, маем замест станоўчага героя, якога палюбілі б, жывога, які запомніўся б. Як падумаць, ужо нямала.

***

«Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі» стварае вельмі размаітую, шырокую панараму. Па-першае, за кошт таго, што Ігар Запрудскі сапраўды не карпаратыўны крытык і не звязаны ніякай палітыкай у выбары імён. Героі яго артыкулаў — і тыя, хто не распешчаны ўвагай да сваёй творчасці, і знаныя аўтары, і дэбютанты. Па-другое, размяшчэнне тэкстаў у храналагічным парадку паспрыяла адвольнаму суседству класікаў і сучаснікаў, XIX і XX стагоддзяў. Прытым няма ўражання разбэрсанасці і хаатычнасці. Наадварот, чытач мусіць сфакусіравацца, каб сачыць за сканцэнтраванай аўтарскай думкай, не разбаўленай пустаслоўем. Кожны артыкул дэманструе абазнанасць у тэме, імкненне ўлоўліваць тэндэнцыі, уменне даваць панарамны, глыбокі погляд на літаратуру. Межаў не існуе, гаворка пра прыгожае пісьменства не выключае дасціпна сфармуляваных назіранняў адносна сённяшняй беларускай сітуацыі. Імпануе яшчэ і тое, што, звяртаючыся да літаратурнай спадчыны Беларусі, Ігар Запрудскі не абмінае вострых пытанняў, не баіцца гаварыць сучаснай мовай і пазбягае паўтораў. Яго погляд арыгінальны, асабісты і датычыцца, як правіла, маладаследаваных аспектаў.

Крытык можа выдатна прааналізаваць тэхніку і паказаць, дзе яна кульгае, але падаецца, куды больш яго цікавіць невідавочнае: дух, ідэя, прырода таленту, псіхалогія творчасці. У гэтай тонкай матэрыі памыліцца складаней, чым у метрах, рытмах і кампазіцыі. Тут абавязкова прапісаны густ. Толькі тады не перакуляцца палюсы, шэрыя творы не паўстануць шэдэўрамі. Эстэтычнаму густу Ігара Запрудскага можна давяраць. Хоць сам аўтар не катэгарычны, не ўскладае на сябе абавязак быць ісцінай у апошняй інстанцыі і дапускае памылковасць сваіх меркаванняў. Аднак кожнае з іх можа аргументаваць, прамаўляе ад першай асобы і нясе адказнасць за свае словы. Бо, падаецца, страта маральнай адказнасці і ёсць самы небяспечны дыягназ для літаратуры.

Што тычыцца стылю, то, скарыстаўшыся азначэннем, якое аднойчы прагучала ў гэтай кнізе, Ігара Запрудскага можна назваць крытыкам-творцам. Усё багацце мовы, адметная вобразнасць, разнастайнасць інтанацый, іронія і самаіронія, грэблівае стаўленне да любых трафарэтнікаў — далібог, многія літаратары могуць пазайздросціць крытыку, у тым ліку і ва ўменні трымаць чытацкую ўвагу.

P. S. Ігара Запрудскага можна павіншаваць не толькі з выхадам кнігі, але і з сёлетнім юбілеем, што рэдакцыя «ЛіМа» з радасцю і робіць. Зычым творчых і жыццёвых поспехаў і спадзяемся, што сучасны літаратурны працэс не будзе ім занядбаны на карысць любага XIX стагоддзя.

# Згадка пра Алеся Махнача

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

Вобраз вядомага беларускага пісьменніка Алеся Махнача у маёй памяці звязаны з рэдакцыяй газеты «Літаратура і мастацтва», бібліятэчным тэхнікумам А. С. Пушкіна, а яшчэ з мнагалюднымі аўдыторыямі чытачоў-магілёўцаў.

У 1952 годзе газета «Літаратура і мастацтва» змясціла першую маю нататку пра тое, што ў Магілёве дрэнна наладжаны кніжны гандаль. Мясцовыя ўлады рэагавалі на крытычныя заўвагі, і я зрэдчас дасылаў у «ЛіМ» невялікія допісы. Часам атрымліваў з рэдакцыі лісты, у якіх літсупрацоўнік газеты Алесь Махнач звяртаў маю ўвагу на некаторыя хібы тэксту і нават раіў тэмы, падказваў, на чым зрабіць акцэнт. У нейкай ступені гэта была вучоба.

Так адбылося завочнае знаёмства. І калі на пачатку 60-х гг. я ўпершыню трапіў у будынак рэдакцыі газеты, то найперш адшукаў літсупрацоўніка Алеся Іванавіча. Мы сустрэліся так, нібыта даўно і добра знаёмыя. Тым больш высветлілася, што мы калегі. А. Махнач таксама меў прафесію бібліятэкара. У другі раз я завітаў да яго пасля рэспубліканскага семінара бібліятэкараў, паабяцаў даслаць інфармацыю.

— Не! — сказаў ён. — Вось табе папера і аловак, садзіся за мой стол і пішы. Пойдзе ў сённяшні нумар.

З таго дня пачалося наша шчырае сяброўства, якое доўжылася і тады, калі ён з рэдакцыі пайшоў на вольны хлеб. На пачатку 80-х, калі я працаваў выкладчыкам Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя А. С. Пушкіна і паралельна рыхтаваў сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі, Алесь Махнач наведаў Магілёў тройчы. У лютым 1981 года прыязджаў з Мікалаем Кругавых, у сакавіку 1982 года — адзін, тады ён па чарзе выступаў з мясцовымі пісьменнікамі Аляксандрам Мельнікавым, Пятром Шасцерыковым, Міхаілам Шумавым і Лідзіяй Зярковай. У лютым 1986 года Алесь Махнач прыехаў з Хрысцінай Лялько. На працягу пяці дзён пісьменнікі сустракаліся з чытачамі ў цэхах заводаў, рабочых інтэрнатах, навучальных установах. Тысячы магілёўцаў убачылі і пачулі слова мужнага абаронцы Брэсцкай крэпасці і праўдзівага пісьменніка.

Кожны раз, як толькі меў такую магчымасць, я стараўся суправаджаць Алеся Іванавіча на літаратурныя выступленні, каб зноўку паслухаць яго. Высокі, заўсёды вясёлы, рухавы… На яго звярталі ўвагу. Здавалася, што ён не ідзе, а бяжыць. Іншым разам Алесь Іванавіч нават апраўдваўся:

— Нікуды я не бягу! Усё проста: стану на хворую нагу — адчуваю дыскамфорт, стараюся хутчэй абаперціся на палачку і паставіць на зямлю другую нагу. Так вось і «прыгаю» пасля вайны.

У кожны свой прыезд ён абавязкова рабіў адно-два выступленні ў сваёй alma mater — бібліятэчным тэхнікуме імя А. С. Пушкіна. Будучым прапагандыстам кнігі гэтыя сустрэчы былі цікавыя, карысныя, бо Алесь Іванавіч быў дасведчаным бібліятэкарам, да таго ж, меў добрае пачуццё гумару. Зала літаральна выбухала рогатам, калі ён чытаў урывак з арыгінальнай камедыі. Здаралася, і сам пісьменнік не мог стрымацца і са смакам смяяўся разам з маладымі слухачамі. Упэўнены, што і сёння многія бібліятэкары-выпускнікі тых гадоў помняць выступленні Алеся Махнача.

У першы прыезд Махнач пагартаў мой альбом з экспромтамі пісьменнікаў пра кнігу і бібліятэку. Пакінуў свой: «Лепш адчуць смак добрага мастацкага слова, чым адчуць смак добрага віна альбо гарэлкі.

Вось так, шаноўны мой сябра Віктар Іванавіч, я магу адказаць на Ваша пытанне пра кнігу.

10 лютага 1981 г.

Ал. Махнач».

Апошняя сустрэча з Алесем Махначом была ў лютым 1985 года. Я заўсёды помню яго як душэўнага і сумленнага чалавека, мужнага франтавіка і праўдзівага пісьменніка.

# Паэзія дажджу і сонца

Так адбылося, што зборнікі «Кроплі дажджу» і «Парасонечнасць» адпаведна Міколы Кандратава і Алеся Емельянава-Шыловіча трапілі ў маю творчую кайстру ў адзін дзень і ў адным месцы: 1 ліпеня 2013 года ў клубе «Графіці». Прычым імпульсіўны і ўсхваляваны Алесь (вечарына ў «Графіці» была прымеркавана да выхаду яго першай паэтычнай кнігі) ледзь прыладкаваў у подпісе да зборніка сапраўдную дату. Стрымана-эмацыянальны Кандратаў змясціў у акуратныя радкі традыцыйнае і асабістае.

**Юрась НЕРАТОК**

У Міколы Кандратава кніга паэзіі — трэцяя. Першыя дзве — «Возера Рудакова» і «Вершы і зоркі» былі адзначаны інфармацыйнымі рэцэнзіямі. Вершы Мікалая Мікалаевіча час ад часу з'яўляюцца на старонках розных выданняў: адсутнасць «прабіўнога» характару Кандратаву кампенсуюць талент і добразычлівыя адносіны да людзей і творчасці. Таленту самотна аднаму: Мікола здольны прафесійна складаць гараскопы і нават паспеў скласці іх на пэўную частку беларускіх пісьменнікаў, хоць трохі шкадуе на гэты занятак часу.

Алесь Емельянаў-Шыловіч (псеўданімна-родная прыстаўка з'явілася, каб пазбегнуць блытаніны з творчым цёзкам-папярэднікам) таксама паспяхова адзначыўся там, дзе сапраўды адчуваюць паэзію. І ў Алеся паэтычны талент не адзінокі — пад яго кіраўніцтвам «прабіваецца ў людзі» своеасаблівы (як па афармленні, так і па выкананні) музычны гурт «aRBa». Напэўна, сувязь са студыяй дазволіла Алесю падмацаваць дэбютную кнігу паэзіі дыскам з прэзентацыяй часткі твораў пад музычнае афармленне.

Спадзяюся, вы ўжо адчулі, што аўтар гэтай рэцэнзіі не проста асабіста знаёмы з абодвума паэтамі, а і ставіцца да іх па меншай меры прыязна. Больш за тое, давялося на правах прафесійнага чытача знаёміцца з рукапісамі абодвух аўтараў.

«Смайлікаў» у зносках паставіў нямала — такі стыль разгляду. На некаторыя вершы Кандратава нават пародыі нарадзіліся. Не ад пагарды — ад разумення як паэтычнай вартасці рукапісаў, так і ступені адказнасці і мяжы цярпімасці аўтараў. І, магчыма, ад светлай зайздрасці, ды яшчэ радасці, што жыву ў адной прасторы з імі.

Зразумела, не адзін я «таптаўся» па рукапісах. Творца, які адчувае адказнасць за сказанае (тым больш за надрукаванае), не верыць сабе. Калі здаецца, што нельга паправіць ва ўласных радках і коскі, перадае, каб зірнулі нераўнадушныя. Тым не менш прыярытэт — аўтару. Мякка-ўдакладняльная кампраміснасць аднаго і знешнеўдумная згода другога дазволілі паэтам не падладжвацца пад «прызнана аўтарытэтныя» меркаванні, а спакойна вытрымліваць сяброўскія сцёбы і далікатныя паляпванні па плячы. Таму «Кроплі дажджу» Кандратава на выхадзе сталіся нябёснадыстылявана-недачэпнымі, а «Парасонечнасць» здольная абараніць Емельянава-Шыловіча не толькі ад дажджу, а і ад буйнога граду.

Уважлівае вока не магло не заўважыць літару «С», што выдаецца ў «Парасонечнасці» Алеся. Гэта не глюк набору, а аўтарская назва, якая падагульняе пэўны этап творчасці. І законнае ідэалістычнае жаданне паэта: мець парасон, які хавае не ад сонца, а толькі ад дажджу. Але не ад тых кропель, што жывяць літаратурную глебу.

Упэўнены, што Мікола назваў «Кроплі дажджу» прапунктырыў зборнік, адмовіўшыся ад папярэдне прапанаваных заведама банальных і эпатажных варыянтаў, хоць прадумаў і ўзважыў амаль усе парады і прапановы.

Не збіраюся супастаўляць Міколу Кандратава і Алеся Емельянава-




Шыловіча па майстэрстве вершаскладання. І Алесь можа рыфмаваць небанальна, і Мікола лічыць, што «калі адбываецца пахаванне рыфмы, паэзія працягвае жыць». Сур'ёзнае стаўленне да літаратуры як жыццёвай задачы прысутнічае і ў абачлівага Кандратава, і ў няўрымслівага Емельянава-Шыловіча.

І ў «Кроплях дажджу», і ў «Парасонечнасці» маюцца паэтычныя прысвячэнні. Сапраўдны майстар




здольны лёгка перасягнуць жанр дзяжурнага віншавання і мадрыгальнасці, стварыць культурныя адбіткі часу са звычайных чалавечых стасункаў. Дакладней, убачыць у іх пэўныя арыенціры, якія потым стануць здабыткамі і паэзіі, і гісторыі літаратуры. Брэнды паэтаў на час выхаду зборнікаў: «Арменія» — у «Парасонечнасці» і «Не ўдаецца жывое адчуць» — у «Кроплях дажджу».

Дасканаласць, да якой амаль натуральна дацягваюцца Мікола Кандратаў у «Кроплях дажджу» і Алесь Емельянаў-Шыловіч у «Парасонечнасці», — мера патрабавальнасці паэтаў да зробленага: як і саміх тэкстаў, так і афармлення кніг. Адэкватнасць — яшчэ адна рыса паэта, якая дапамагае спраўдзіцца, выглядаць амаль празрыста, адкрыта.

Назвы зборнікаў можна злучыць: дождж і парасон. Супрацьстаяння няма. Гэтая выпадковасць сімвалічная... У развітальнай мітусні забыты парасон можа даць назву кнізе паэзіі, а panылае надвор'е — спарадзіць паэтычны супраціў, жаданне асвятліць пахмурны свет зіхценнем чыстага радка.

Пакідаю літаратуразнаўцам больш падрабязны аналіз кніг паэзіі «Парасонечнасць» і «Кроплі дажджу» і дзякую паэтам, якія робяць тое, што ім наканавана, так, як падказвае ўнутраны камертон.

## Сувымерна часу

**Яніна НАВАГРОДСКАЯ**

«Пясочны гадзіннік». Менавіта так называецца кніга літаратуразнаўцы і крытыка Лады Алейнік, якую давялося прачытаць гэтымі днямі. У кнігу ўключаны артыкулы, рэцэнзіі, нарысы і палемічныя нататкі, прысвечаныя беларускаму літаратурнаму працэсу XX — XXI стагоддзяў. Выданне складаецца з трох раздзелаў. Аўтар прадмовы прафесар Людміла Сінькова высока ацэньвае кнігу, у прыватнасці — першы раздзел «з трыпціхам пра Алеся Пальчэўскага, Янку Скрыгана, Сяргея Грахоўскага (артыкул «Тры таварышы»), які варта назваць дакументальна-мастацкім, бо тут сапраўды па-мастацку раскрыта агульная трагедыя эпохі ў адзінкавых чалавечых лёсах); з аналітычнымі развагамі пра творчасць Васіля Быкава, што заўсёды патрабуе пэўнай грамадзянскай пазіцыі ад даследчыка; пра старэйшых літаратуразнаўцаў як пра настаўнікаў — І. Я. Навуменку, А. А. Лойку, Д. Я. Бугаёва, М. І. Мушынскага…»




У другім раздзеле змешчаныя артыкулы, у якіх разглядаецца паэзія Ірыны Багдановіч, Людмілы Рублеўскай, празаічныя творы Андрэя Федарэнкі, Анатоля Казлова, Уладзіміра Сцяпана, Міхася Андрасюка (прадстаўнік беларускай літаратуры ў Польшчы), Людмілы Рублеўскай (у кантэксце масавай літаратуры, дэтэктыўнай прозы).

Трэці раздзел — гэта рэцэнзіі на кнігі Янкі Брыля «Блакітны зніч», Браніслава Спрынчана «Асенні верасок», зборнік лірыкі пра каханне «Яна і Я», зборнік дэтэктыўнай прозы «Карона Вітаўта Вялікага», першае выданне Юрася Нератка «Закуцце», кнігу крытыкі Ірыны Шаўляковай «Рэстаўрацыя шчырасці».

Асоба аўтара надзвычай цікавая. У Лады Алейнік ёсць свой блог, дзе яна выступае не толькі як крытык і даследчык літаратуры. Павеў часу, масавая інфарматызацыя грамадства адбіваецца на стылі крытычных матэрыялаў. Асабліва гэта адчувальна ў другім і трэцім раздзелах, дзе, як зазначае Людміла Сінькова, Лада Віктараўна сцвердзіла сябе «ў якасці "блогера", аўтарытэтнага карыстальніка сеціва і, не баючыся магчымай агрэсіі, прэзентуе і адстойвае вартасці беларускай культуры, прафесійнага філалагічнага мыслення».

## «І зліваюцца ў Слове надзеі»

Калі чытаю кнігі пра вайну, у мяне заўсёды ўзнікаюць адны і тыя ж пытанні. Адкуль у сэрца столькі жорсткасці? Што прымушае людзей забіваць адзін аднаго? Калі забіваюць на вайне простыя салдаты, іх нават абвінаваціць нельга, таму што дзейнічае закон: калі ты не заб'еш, то заб'юць цябе.

Нядаўна мне трапілася кніга магілёўскага паэта Алеся Казекі «Марыйка», якая сёлета выйшла ў свет.




У аснову адмайменнай паэмы пакладзеныя падзеі, што адбываліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў жыцці маці аўтара — Марыі Восіпаўны, якая цудам засталася жыць, не дайшоўшы некалькі крокаў да вёскі, дзе карнікі расстралялі і спалілі людзей.

Трагізм ваеннага ліхалецця перадаецца праз лёс вясковай дзяўчыны Марыйкі, якая прайшла праз пекла, пераадолела страшныя пакуты і ў малітве да Бога ўзнеслася над злосцю і нянавісцю, не страціўшы веру і надзею на лепшую будучыню.

Яшчэ не адгарнуўшы апошніх старонак, адчуваеш, што фінал будзе трагічным, кніга проста прасякнута болем. Чытанне скончылася спазмам у горле ад шчымлівай тугі.

Безумоўна, твор — значная падзея ў сучаснай беларускай літаратуры.

*…«Ойча наш!*
*І на сэрцы цяплее.*
*І малітва мацнее ў душы,*
*І заранак жыцця палымнее,*
*І зліваюцца ў Слове надзеі:*
*Божа, людзі Твая зберажы!»* — так заканчваецца паэма, сцвярджаючы вечнасць сусвету.

**Ганна ЛЯХ**

# Ключы, якія кожны шукае сам

Уладзімір Гніламёдаў — вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка і прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук, акадэмік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Юлія МЯЛІК**

Кніга «На рубеже времён» — гэта бачанне аўтара сучаснай рускамоўнай паэзіі ў Беларусі.

На думку Уладзіміра Гніламёдава, сёння літаратура імкнецца адказаць на пытанне, якія паводзіны чалавека захаваюць яго самога. Паводле Уладзіміра Васільевіча, паэзія — гэта думкі і пачуцці, пульсацыя, якую немагчыма спыніць. Рускамоўныя пісьменнікі з Беларусі пішуць вершы на самыя розныя тэмы. Уладзімір Гніламёдаў адзначае, што сучасная рускамоўная паэзія характарызуецца інтэлектуальнасцю, пошукамі ўнутры самой паэтычнай структуры. Разам з тым яна слаба звязана з беларускай культурай, яе мала цікавіць клопат пра мову, гісторыю.

Паэзія заўсёды існавала насуперак усяму. І ў наш няпросты час, калі зямныя, утылітарныя інтарэсы людзей відавочна бяруць верх над духоўнымі, чалавек, нягледзячы ні на што, не развучыўся ўспрымаць прыгажосць, здзіўляцца навому, хваляваацца, радавацца і сумаваць.

Сучасная рускамоўная паэзія — гэта слова, якое звернута да сучасніка і адкрывае яму новае бачанне свету і самога сябе. Паэзія — у падарожжы. Ніхто не мае ключа ад новага Сезама, які б адамкнуўся па першым патрабаванні паэта, няхай нават і самага таленавітага. Сёння становіцца ўсё больш відавочным, што ў паэзіі ніхто не мае гатовых адказаў, што іх трэба шукаць самастойна. Паэты не абмяжоўваюцца, як гэта здаралася раней, знешняй канстатацыяй вядомых і часта бясспрэчных ісцін, а імкнуцца даследаваць іх, захапляючы чытача, глыбока і ўсебакова. Яны па-ранейшаму вераць, што паэзія лечыць людскія душы.

## Алег САЛТУК



### На возеры

З перакусам вазьму вузялок,
І азёрныя сінія хвалі
Мой зялёны падхопяць чаўнок,
Панясуць у ружовыя далі.

Кіну якар у самую глыб,
Паплавок па вадзе заскача.
І пад стоены хваляў усхліп
Недзе каня над імі заплача.

Лебядзіны пачуецца крык.
Жураўлінае скволіцца рэха.
Залатым абручом угары
Сонца ўскоціцца ўсім на пацеху.

Чуў, што бог не бярэ ў залік
Час, праведзены на рыбалцы,
А яшчэ шапне вадзянік,
Што прыплыў я, адной русалцы.

Ці сустрэнемся мы, ці не,
Невядома будзе нікому,
Покуль лета не праміне
І не пройдзе гарачая стома.

### Радасць

Бяроз зялёна-белы шоўк
Вятры блакітныя палошчуць.
Сюды я ўсё жыццё ішоў
Ад тратуараў і ад плошчаў.

У шыр ішоў і глыбіню
Нябёс і даляў неабдымных.
Куды, адкуль ні пазірну,
Усюды добрая краіна.

І хатаў ціш, і жыта шум,
Людзей прасветленыя твары
Адпрэчаць разам боль і сум,
І ўсюды радасць заўладарыць.

Зло тут адступіць да канца.
І сэрца радасна заскача, —
Як ля бацькоўскага стаўпца
Слядок твой знойдзецца дзіцячы.

### Жаданне

Я не хачу і не хацеў ніколі
Малочных рэк, кісельных берагоў,
Бо іх няма, а казачак даволі
Разлічаных здаўна на прастакоў.

Нас імі да адвалу частавалі,
А мы ўвесь час галоднымі былі.
І ўсё ж чакалі, як жа мы чакалі
Той дзень, і год, і пяць гадоў, калі

Кісель для нас на берагах застыне
І малаком між імі пацячэ,
І птушка-Жар аднойчы з неба скіне
Сваё пяро да гэтага яшчэ.

### Успамін

Ты маладая і я малады.
Яблыкаў поўныя нашы сады.
Ані хмурынкі на даляглядзе,
Бездань пяшчоты ў любым паглядзе.

Свет яшчэ добры, людзі не злыя.
Потым настануць часіны другія.
Свецяцца травы — падаюць росы,
Хутка пралягуць тутка пракосы.

Смелыя вочы, жаркія рукі,
Нашых абдымкаў шчасце і мука.
Сноп васількоў на таемных каленях.
Вуснаў і сэрцаў невымаўленне.

Неба з зямлёй без канца і без краю…
Тое збывае, што не ўмірае.

### Свята

Анічога не забываю,
Анікога, пакуль жыву…
Сёння зноўку сяброў збіраю,
Заўтра ворагаў пазаву.

У сяброў — адкрываюцца твары,
Пацячэ слоў гаючы бальзам.
З імі добра смяяцца і марыць,
Давярацца іхнім вачам.

Паспяшаюць і ворагі ў госці,
Зацалуюць, каб адгадаць:
А навошта было ягамосцю
Іх таксама сюды запрашаць?

Разбягуцца і тыя, і гэты,
Мёд пакінуўшы з дзёгцем у ім.
І расплодзіцца жнівень над светам
Днём народзін чарговым маім.

## Іван ЖДАНОВІЧ



### Мора

Як многа ў табе чалавечага,
Мора…
Твае пацалункі,
Твае абдымкі
Лаўлю загарэлымі рукамі,
Мора…
Ты ліжаш мне ногі —
Я акунаюся ў цябе з галавою,
Мора…
Твой голас зачароўвае,
Твае вочыззяюць тысячамі сонцаў,
А сіле тваёй і моцы,
Тваёй заўсёднай працавітасці
Мне яшчэ вучыцца й вучыцца,
Мора…
І ўсё ж я люблю цябе не бязмежна,
А пакуль неглыбока
Тваё
Цёмнае дно
Пад нагамі,
Пакуль бачаць вочы мае
Блізкі выратавальны бераг,
Пакуль сонца саграваe
Тваю халодную ваду,
Якая, кажуць, па саставе хімічным
Вельмі нагадвае
Людскую кроў.
…А яшчэ я бачыў
На ласкавых пляжах
Сляды тваёй драпежнасці:
Змачаленыя ў вату
Камлі векавых дрэваў.
…Як многа ў табе чалавечага,
Мора…

### Вяртанне да мора

Людзі прывозяць на мора
Свае лішнія кілаграмы,
Пот сваіх нядужасцяў ды хваробаў,
Змываюць тут свае клопаты,
Сваю стому,
Свае трывогі…
Мора
Залізвае іх цялесныя і душэўныя раны,
Шліфуе і паліруе,
У хаўрусе з пяском і сонцам,
Падношаныя людскія астовы.
Яны ляжаць на пляжах,
Уперамешку з валунамі ды булыгамі,
Як нежывыя…
А мора ўсё падступаецца,
Каб прадоўжыць
Свой жыццядайны масаж.
Целу — ацаленне…
Душы — заспакаенне…
…Тысячы дарог прайшлі мы,
Калі выйшлі з мора,
І шмат награшылі,
І шмат напакутаваліся за свае грахі –
І вось зноў прымае блудных дзяцей
Спрадвечны бераг мора.
Мы вярнуліся
І, разам з шэрымі камянямі,
Просім у мора
Здароўя…
Сонца…
Пяшчоты…
Спакою…

### Спрадвечны рытм

Мора,
Твае хвалі,
Якія гушкалі мяне
Днём і ўранку,
Памятае маё стамлёнае цела
І ўвечар.
Яно быццам пакалыхваецца
Хвалямі
Ў рытме глыбокага твайго дыхання...
...А можа,
І маё дыханне —
Гэта вечаровы водгук
Далёкае раніцы чалавецтва,
Калі яно
Толькі выходзіла з хваляў мора
На яшчэ цёплую
Пасля агню стварэння
Зямлю?..
Можа,
Сёння цела толькі ўзгадала
Спрадвечны рытм
Хваляў таго мора?



Фота Анеі Сёдро

## Іна ФРАЛОВА



***

Я нарадзілася тады,
Як спеляць жалуды дубровы.
Губляюць яблыкі сады,
І лета ціхія размовы
Аб сумнай восені вядзе,
Да золку шэпчучы замовы
На першай тонкай павуце.

Я нарадзілася, калі
Па небе, як сам жнівень, спелым
Плылі самотна жураўлі,
Свой цень кідаючы нясмела
На залацістыя стагі,
А потым у аблоках белых
Знікалі песняю тугі.

Я нарадзілася тады...

***

За лесам ранак сарамлівы згас,
Зноў дзень наступны расхінаў нябёсы.
Так нечакана напаткаў нас час,
Дзе Нехта звыш пераплятае лёсы
Таемна ад усіх, не напаказ.

Стаялі поруч, як на ручніку,
Хаваючыся ў туманах бялёсых,
Да сэрца—сэрца. І рука ў руку
Пайшлі за шчасцем па сцяжынах росных,
Пайшлі шукаць вірлівую раку.

Туды вялі шляхі-сцяжыны нас,
Дзе чуўся голас маладога лета,
Цвілі сады, нібы ў апошні раз.
І я кахала ўсёй душой паэта,
Ўсёй, без астатку, я кахала Вас.

***

У межах сустрэчы, у межах сустрэчы
Былі недарэчы, былі недарэчы
Твой позірк,
што так абдымаў мае плечы,
І позірк чужы асуджаючы нечы.

І вуснамі дотык халоднай шчакі,
Падобны на плыткія хвалі ракі.
У межах сустрэчы ўсё недарэчы,
Усё недарэчы, усё недарэчы...

***

Асенні вечар. Манастырскі двор.
І непагадзь бязмесячна-сляпая
Далонямі абветраны прастор
Шалёна лапае, як быццам бы жывая…

На тым дзядзінцы толькі я і ты
Укленчана стаялі ля парога.
Маліўся ты, і несла я лісты
У вершах-споведзях да Бога.

Ляцела мокрая лістота ў твар,
Дажджы змывалі літары з паперы.
«Мір вам!» — пяяў сівы святар,
Калі у Храм мы адчынілі дзверы.

Касых дажджоў заенчылі басы.
Вятры, як воі, білі сцены Храма.
І стаў спакой, што дораць абразы,
Нібыта ў рай расчыненая брама.

***

Павялі мяне лёсу сляды
Па заснежанай далі-далечы.
Халады, ах, ізноў халады,
На слабыя жаночыя плечы.

На шляху зноў аблогі завей,
Чарнабыльнік сухі і сутонне,
Страта лепшых з людзей і надзей
Ды абдымкі сляпога бяссоння.

Не баюся — усё праміне.
Назаву я мінулым сягоння.
Як той снег, гэты час для мяне
Каламуццю зляціць у бяздонне.

Не баюся ні сноў, ні вады,
Бездарожжаў жыццёвых, цямнечы,
Ні слаты, ні тугі, ні бяды,
А баюся з табой несустрэчы.

***

Парывы-думкі ў паднябессе адпушчу
Адным узмахам рук.
Адным імгненнем
Ім вольную я дам,
Пазбаўлю мук.
Крылатыя не стануць вязнямі.
Скляпенне
Умоўнасцей без страху разбяру.
Лёс не даруе сытага спакою.
Па мне ўжо лепей з крыжам пад гару,
Чым умывацца крыўднаю слязою.
Без шкадавання думкі адпушчу…
Адным узмахам рук
Дарую крылы.
Не, не трымценне, а шалёны грук
У нетрах сэрца абуджае сілы.

***

З сябрамі летні вечар падзялю,
Таполевыя снежныя завеі.
Пад песню цвыркуна, што так люблю,
Я падзялю гуд гарадской алеі.

Халодных зорак падзялю святло.
Сябрам маім да раніцы хай цьмее
Паўмесяца пасрэбранае шкло,
Для тых, хто сум паэткі разумее.



Сяргей БЕЛАЯР

# Цацачныя салдацікі

## *Фантастычнае апавяданне*

Калі Міхаэлю было восем гадоў, бацька падарыў яму набор цацачных салдацікаў — дванаццаць пластмасавых фігурак у кардоннай скрынцы з пацьмянелым надпісам «Toy soldiers» на вечку і кранутымі іржой клямарамі. Літары на заднім баку скрынкі зусім не чыталіся, а ліпкая стужка, што змацоўвала яе клапаны, ледзь трымалася. Да пары скрынцы аказаліся і самі салдацікі — іх пакрывалі шматлікія драпіны і сколы. У некалькіх фігурак краі падставак былі аплаўленыя і абламаныя, а некалі насычаны аліўкавы колер пажух, пабляк, захаваўшыся ў першапачатковым выглядзе толькі ў пазах. На здзіўленне Міхаэля, зброевыя ствалы і чаранкі сапёрных лапатак не толькі ацалелі, але нават не сагнуліся, як і тонкая, даўжынёй у адну цалю, антэна радыёстанцыі. Зброя, амуніцыя, форма, каскі — усё было адліта без браку. Так, як быццам салдацікаў выразалі ўручную.

Пры ўважлівым разглядзе высветлілася, што дробныя дэталі былі выкананы вельмі добра, таму фігуркі здаваліся мініяцюрнымі копіямі сапраўдных людзей. Яшчэ больш узмацнялі ўражанне выразы твараў салдацікаў — яны не проста адрозніваліся, а былі па-сапраўднаму арыгінальныя. Як ні спрабаваў Міхаэль адшукаць у іх хоць бы кроплю падабенства, так нічога і не знайшоў. Твары фігурак належалі дарослым і ў той жа час спалучалі ў сабе дзіцячыя рысы.

Дакрананне да любой з дванаццаці фігурак прыносіла радасць і адчуванне дотыку не да мёртвага кавалка пластмасы, а да жывой істоты. Міхаэлю здавалася, што ён адчувае біццё сэрцаў байцоў, і гэта адчуванне было зусім не падобнае да гульні ўяўлення.

Сярод іншых асабліва вылучалася адна — фігурка Стралка. Салдацік выглядаў так, як быццам усяго некалькі хвілін таму сышоў з канвеера: ні адзінай драпіны ці скола, каларытны колер, гладкі ніз падстаўкі. А яшчэ цацка была падобная да Ціма — сына старога Пітэра з суседняй вуліцы Клёнаў.

Міхаэль прымаў дар з зіхоткімі ад захаплення вачыма і дрыготкімі рукамі. Яму здавалася, яго ўласнае сэрца вось-вось выскачыць з грудзей, а рэальнасць абернецца сном. Ад адной думкі пра тое, што бацька можа перадумаць, падкошваліся ногі.

Уручаючы падарунак Міхаэлю, бацька сказаў:

— Стаўся да гэтых салдацікаў з павагай! Беражы іх, а калі яны табе надакучаць, не выкідвай, а падары— дзіцяці даросламу, але толькі такому, у каго ёсць дзеці! І ніколі не ламай!

— Чаму? — спытаў здзіўлены Міхаэль.

— Здарыцца вялікая бяда! — растлумачыў бацька, у голасе якога не было і кроплі хлусні.

Тое, што ён меў на ўвазе, Міхаэль зразумееў праз некалькі гадоў.

— Ніякай наўмыснай шкоды! — паўтарыў бацька. — Салдацікам таксама бывае балюча! Яны могуць пацярпець у баі, аднак пасля заканчэння бітвы іх трэба абавязкова адрамантаваць! У наборы ёсць спецыяльны клей!

Міхаэль кіўнуў, толькі цяпер звярнуўшы ўвагу на невялікі цюбік з доўгім носікам, на які быў накручаны корак.

— Абяцаеш не ламаць салдацікаў?

— Абяцаю! — запэўніў Міхаэль, не дапускаючы нават думкі пра тое, каб зламаць такія выдатныя фігуркі. Падобнага набору ні ў каго не было. Пра тое, дзе бацька ўзяў салдацікаў, Міхаэль даведаўся праз пяць гадоў — фігуркі належалі знікламу без вестак Ціму. А ў весь падобныя пытанні Міхаэля не турбавалі. Куды важней было тое, што ён стаў уладальнікам гэтакай цудоўнай цацкі. Якая розніца, хто валодаў наборам раней?

Пераскокваючы цераз прыступку, Міхаэль пабег да сябе ў пакой, толькі ў самых дзвярах крыкнуў:

— Дзякуй, татачка! Ты самы лепшы на свеце! Я люблю цябе!..

Дванаццаць фігурак — Камандзір, Радыст, Гранатамётчык, Кулямётчык, Сцяганосец, Выведнік, Санітар, Снайпер, Сапёр і тры Стралкі — у хуткім часе зацьмілі сабой усе астатнія цацкі. Салдацікі бралі ўдзел у надзвычай небяспечных экспедыцыях па ўсёй хаце; ахоўвалі домік Барбі і Кена, якія належалі малодшай сястры Міхаэля; вызвалялі лялечных заложнікаў, захопленых вераломным Дартам Молам; ратавалі ката Барта і сабаку Фрэда, выкрадзеных Чорнымі рыцарамі; біліся з касмічнымі піратамі і іншапланетнымі пачварамі; дапамагалі аднаўляць гарады... Фантазія Міхаэля не ведала межаў. Варта было высыпаць фігуркі на дыван, як Міхаэль забываў пра час. І нядзіўна — фігуркі не ішлі ні ў якое параўнанне з грубай і безжыццёвай штампоўкай, якой адрозніваліся салдацікі з іншых набораў. Ні адзін з іх не кранаў сэрца Міхаэля. Дванаццаць фігурак былі самымі лепшымі, якімі ўвогуле маглі быць цацачныя салдацікі. Пабудуеш у шэраг, і здаецца, што яны вось-вось ажывуць, крыкнуць «Так, сэр!» і пойдуць у атаку...

Міхаэль ставіўся да салдацікаў як да каштоўнай рэліквіі. Мізэрная скрынка нязменна займала на кніжнай паліцы самае ганаровае месца. Кладучыся спаць, Міхаэль не заплюшчваў вачэй да таго часу, пакуль не пераконваўся ў тым, што набор нікуды не дзеўся, што фігуркі чакаюць новага дня і новых бітваў. З часам кардон патрапаўся яшчэ больш, але Міхаэль скрынку не мяняў — кожны раз клапатліва рамантаваў яе. Сама думка пра замену выглядала лішняй. Здавалася, што ў гэтым выпадку знікне чароўнасць салдацікаў. Стары кардон падкрэсліваў дасканаласць фігурак.

Колькі непрыемных хвілін перажыў Міхаэль, калі выпадкова зламаў вінтоўку ў аднаго са Стралкоў. Хлопчык у слязах кінуўся да бацькі. Большага няшчасця ў дзевяць год Міхаэль не мог сабе ўявіць. Яму здавалася, быццам пасля паломкі Стралок засмуціўся і страціў баявы дух. Бацька суцешыў сына і стварыў цуд — пры дапамозе клею адрамантаваў зброю. Міхаэль быў упэўнены, што пасля заканчэння рамонту салдацік павесялеў. З тых часоў імкнуўся абыходзіцца з падарункам бацькі яшчэ больш асцярожна, не звальваў фігуркі пасля гульні ў скрынку, а акуратна складваў па адной, разважаючы так, каб усім хапіла месца. А як спалохаўся Міхаэль, калі паранены ў марской бітве Сцяганосец пайшоў на дно, нібы быў адліты не з пластмасы, а вытачаны з каменю! Хлопчык намацаў фігурку на дне і паспешліва выцягнуў з вады, паклаў на рукамыйніцу і лячыў з дапамогай Санітара.

Міхаэль прывык да салдацікаў і не ўяўляў сабе жыцця без іх. Верыў, што захавае любоў да дванаццаці пластмасавых фігурак назаўжды — інакш і не магло быць. І не разумеў, як можна закінуць такія выдатныя стварэнні... Іншыя цацкі ламаліся іназалялі, Міхаэль з часам забываў пра іх, мяняў і дарыў. А салдацікі заставаліся недатыкальнымі. Ён без ваганняў адмовіўся б ад усіх сваіх цацак, толькі не ад дванаццаці байцоў. Міхаэлю падабалася разглядаць фігуркі, гладзіць іх шурпатыя бакі пальцамі, адчуваць прыемную цвёрдасць пластмасы, весці ў бой... Ні ў адной з бітваў байцы не ведалі параз, нават у тым выпадку, калі вораг валодаў колькаснай перавагай.

Можа, таму, што Міхаэль лічыў сябе адным з салдацікаў?

Дванаццаць фігурак служылі прадметам гонару Міхаэля. Кожны раз, калі ў доме з'яўляліся госці — дзеці або дарослыя, ён паказваў ім свой скарб і крыўдліва надзімаўся, калі госці не ацэньвалі падарунак бацькі па вартасці. Непадробнае захапленне выклікала ў Міхаэля радасць, а яшчэ ад добрых слоў мацнела любоў да бацькі. Кожная пахвала прымушала сына верыць у тое, што яму невымоўна пашанцавала.

Усе суседскія хлапчукі, ледзь толькі ўбачыўшы пластмасавыя фігуркі, адразу ж пачыналі зайздросціць Міхаэлю. Неадноўчы прапаноўвалі яму набыць, памяняцца, падарыць ім салдацікаў, аднак Міхаэль адмаўляўся даваць фігуркі нават на час. І зусім не таму, што быў прагным— з прычыны боязі парушыць дадзенае бацьку слова. Міхаэль заўсёды згаджаўся прыняць таварышаў у сваё гульні, асабліва калі сябры прыносілі ўласных салдацікаў. Чым большым меркаваўся маштаб бітвы, тым мацней яна падабалася Міхаэлю.

Салдацікі сталі самай лепшай цацкай хлопчыка. Іншыя ён таксама любіў, аднак зусім не так, як дванаццаць пластмасавых фігурак. Калі б хто спытаў яго прыроду любові да салдацікаў, адказ быў бы такім: у іншых цацак адсутнічала душа, яны з'яўляліся толькі нікчэмнымі копіямі, пазбаўленымі нават намёку на дасканаласць. Радасць, якую яны дарылі, у параўнанні з той, што прыносілі дванаццаць фігурак, здавалася бляклай.

Не сумняваючыся ў тым, што яму будзе цяжка перажываць расстанне з салдацікамі, Міхаэль падчас наведвання бабулі і дзядулі браў набор з сабой. Старыя былі гаспадарамі ранча з вялікім дваром — сапраўднае раздолле для гульняў. Пра тое, што бліжэйшыя аднагодкі жылі за дваццаць пяць міль адсюль, Міхаэль ніколькі не шкадаваў — пад камандаваннем знаходзіліся дванаццаць байцоў, гатовых неадкладна выканаць любы яго загад...

Больш за ўсіх быў па душы Камандзір з мужным тварам і рашучым позіркам. Міхаэль хацеў быць падобным да яго — адважнага і гатовага памерці за сваю краіну. Прысутнічала ў фігурцы ўпэўненасць ва ўласных сілах, чаго часам так не хапала Міхаэлю. З цацачнымі салдацікамі ён мог адчуць сябе вялікім палкаводцам і нічым не абмяжоўваць сваю фантазію.

Ішлі гады. Міхаэль сталеў. З дванаццаці гадоў ён раптам змяніў адносіны да салдацікаў. Даставаў набор усё радзей і радзей. А калі споўнілася трынаццаць, пра фігуркі зусім забыўся. І не кранаў іх да таго часу, пакуль аднойчы ўвечары не вярнуўся дадому ў кепскім настроі: Сьюзан, з якой ён вучыўся ў адным класе і якой прызначыў спатканне, на сустрэчу не прыйшла.

У няпоўныя шаснаццаць гадоў гэта стала для Міхаэля ўдарам. Ён страціў любоў да жыцця. Будучыня бачылася чорнай, як вугаль... Міхаэль не мог думаць пра што іншае, акрамя Сьюзан. Навошта ён палез у шафу— для самога так і засталося загадкай. Міхаэль шнарыў невідушчымі вачамі па нутры шафы, пакуль не спыніўся на кардоннай скрынцы з надпісам «Toy soldiers».

Дастаў скрынку, змахнуў з яе пыл. Наплылі дзіцячыя ўспаміны, але радасці чамусьці не прынеслі. Міхаэль адкрыў скрынку. Усе дванаццаць фігурак былі на месцы. Салдацікі ляжалі так, як ён паклаў іх у апошні раз.

Нібы й не было расстання…

Некалькі імгненняў Міхаэль глядзеў на фігуркі, прыпамінаючы, якое шчасце яны дарылі яму раней, затым узяў Камандзіра і пачаў круціць у пальцах, спрабуючы зразумець, што ж прымушала дзіцячае сэрца біцца хутчэй. Звычайная пластмаса, няхай і ўвасобленая ў практычна бездакорную форму...

На левым плячы Камандзіра засталіся сляды ад зубоў — неяк на ранча забег вандроўны сабака і схапіў фігурку, прыняўшы яе за ежу. На крык Міхаэля збегліся дарослыя, дзед нават схапіў стрэльбу. Для таго, каб сарыентавацца, старому спатрэбілася ўсяго некалькі імгненняў. Тэд стрэліў у паветра, і, уцякаючы са здабычай, сабака выпусціў салдаціка. На шчасце, раны Камандзіра аказаліся неглыбокімі...

Міхаэлю стала сумна. Ён падумаў пра тое, як мала ў дзяцінстве яму патрабавалася для шчасця, якімі мінімальнымі былі жаданні, як лёгка прымаўся навакольны свет. Бесклапотная пара, вярнуцца ў якую немагчыма...

Раптам накаціла злосць.

Міхаэль з сілай націснуў вялікім пальцам на галаву Камандзіра, спрабуючы зламаць фігурку, але матэрыял не паддаўся. Няўдача ўзлавала. Націснуў яшчэ мацней. І зноў нічога — пластмаса была неймаверна цвёрдая. Міхаэля асляпіла лютасць. Ён апусціўся на калені і пацягнуў скрыню з інструментамі. Адчыніў яе і схапіў кусачкі. Пстрык! Рука з пісталетам паляцела на падлогу. Пачуўся гучны крык, які прымусіў Міхаэля спалохана павярнуцца. Нікога... Вырашыў, што яму гэта здалося, пасля вярнуўся позіркам да Камандзіра. На цацачным твары застылі боль і змрочная гатоўнасць прыняць смерць.

На месцы Камандзіра магла апынуцца любая іншая фігурка з набору. Падобна да таго, што падсвядома Міхаэль абраў першага сярод роўных з тым, каб расправіцца з ім за ўласныя няўдачы.

Міхаэль зайграў жаўлакамі і са злосцю звёў лёзы кусачак на шыі фігуркі. Пстрык! Галава салдаціка пакацілася пад крэсла.

З абрубка паваліў белаваты дымок, падобны да цыгарэтнага. У завіхрэнні паветра адгадваўся дзіцячы твар, і ў той жа момант бліснула нясцерпна яркая ўспышка. Міхаэль зажмурыўся.

Калі ён расплюшчыў вочы, то ўбачыў, як яго скура імкліва мяняе светлы колер на хакі, канечнасці наліваюцца цяжарам, памеры цела памяншаюцца, ногі быццам урастаюць у зямлю, а джынсы і майка ператвараюцца ў ваенную форму. Міхаэль хацеў закрычаць, але язык адмовіўся падпарадкоўвацца яму.

Праз некалькі імгненняў на падлогу звалілася новая фігурка салдаціка, якая нібыта толькі што выйшла з-пад прэса.

# Муса АХМАДАЎ: «…І ўсё ж чачэнская літаратура жыве і развіваецца»

Вайна ў Чачні наклала асаблівую пячатку на наша ўспрыманне нацыянальнай літаратуры гэтай старонкі. А як усё складваецца сёння на самай справе? На пытанні карэспандэнта газеты «Літаратура і мастацтва» адказвае галоўны рэдактар літаратурна-мастацкага часопіса «Вайнах», празаік, перакладчык Муса Ахмадаў.




**— Чачня прыцягвае да сябе шырокую ўвагу. За размовамі, нагодай да якіх служыць інфармацыя палітычнага, эканамічнага характару, губляецца нацыянальная чачэнская культура, губляецца чачэнская літаратура. А што б вы назвалі цяпер падзеяй у сучаснай чачэнскай культуры?**

— Сапраўды, пачынаючы з 1990-х, расійскія СМІ настойліва стваралі негатыўны вобраз Чачні. Пры гэтым абвінавачванні ў экстрэмізме і тэрарызме насілі агульны характар. «Чорны піяр» чачэнцаў ствараўся згодна з прынцыпам калектыўнай адказнасці народа за дзеянні злачынцаў, без уліку таго моманту, што такія гора-сынкі ёсць у любога іншага народа.

Вынікам гэтай інфармацыйнай вайны з'явілася дыскрымінацыя чачэнцаў па ўсёй прасторы былога СССР. У першую чаргу — з боку праваахоўных органаў. Былі перыяды, калі нам, жыхарам Чачні, немагчыма было праехаць нават у паўночнакаўказскую рэспубліку. Што ўжо казаць пра іншыя рэгіёны Расіі!.. Толькі ўбачаць міліцыянеры нумарны знак рэгіёна, адразу кідаліся да машыны, праводзілі вобыск. Прымянялі другія супрацьпраўныя дзеянні. Гэта я да таго, што ледзь не кожны чачэнец ідэнтыфікаваўся з экстрэмізмам і тэрарызмам. Хаця гэта, канечне ж, няпраўда, народ не можа быць злачынным — злачынцамі бываюць асобныя прадстаўнікі гэтага народа. А яны ўсюды ёсць…

І ўсё ж, нягледзячы на чачэнафобію, якая бушуе ў краіне, нягледзячы на войны, чачэнская культура і, у прыватнасці, літаратура працягвалі жыць і развівацца. Але ў тыя змрочныя гады тэмпы гэтага развіцця вымушалі жадаць лепшага. А то і ўвогуле ўсё на некаторы час амаль замірала. Аднак гэта не значыць, што мы бяздзейнічалі. Напрыклад, я жыў у лагеры для ўцекачоў у Інгушэціі, праводзіў псіхалагічныя гутаркі ў сумётах. Падтрымліваў людзей у цяжкія для нас гады. Ведучы размовы, абапіраўся на факты з гістарычнага мінулага. Нагадваў пра нашых вялікіх прашчураў, чые прыклады ахвярнага служэння этнакультурным і рэлігійным каштоўнасцям засталіся ў людской памяці. Там, у лагеры з сумётаў, я стварыў пры дапамозе гуманітарных арганізацый Культурны цэнтр, у якім мы ставілі спектаклі на чачэнскай мове. Праводзілі семінары для настаўнікаў чачэнскай мовы і літаратуры, этыкі, арганізоўвалі творчыя вечарыны нашых пісьменнікаў, паэтаў, акцёраў, мастакоў…

**— І ў гэты ж час ішлі баявыя дзеянні?**

— Мы працавалі ў залежнасці ад сітуацыі. Імкнуліся неяк аблегчыць цяжкую долю народа, згладзіць пакуты. А калі «гарматы замаўкалі», то чачэнская культура зноўку ажывала. Трагічныя падзеі ў жыцці народа і надзеі на мірнае жыццё давалі новы імпульс развіццю мастацтва і літаратуры.

А найбольш значнай падзеяй мне асабіста ўяўляецца адкрыццё Чачэнскага дзяржаўнага Маладзёжнага тэатра «Серло», якому ўжо ідзе пяты год. Рэпертуар складаюць у асноўным спектаклі, пастаўленыя паводле маіх п'ес. Я і сёння актыўна супрацоўнічаю з гэтым калектывам. Асабліва — па злабадзённых тэмах. Што я маю на ўвазе?.. Пасля змрочных гадоў для нас надзвычай актуальным з'яўляецца захаванне традыцыйнай культуры, вяртанне да духоўных вытокаў, глыбінны філасофскі, без усялякай прадузятасці, аналіз, разгляд падзей нядаўняга мінулага, пошук шляхоў да новага жыцця, у якім усе гэтыя жахі не павінны паўтарыцца.

**— А што б вы вылучылі як з'яву ў сучаснай чачэнскай літаратуры?**

— У нас шмат хто піша па-руску. Праўда, гэтыя творы я не адносіў бы да нацыянальнай літаратуры. Бо літаратура — гэта мастацтва мовы, слова. Значыць, калі чачэнская, то павінна быць на чачэнскай мове. І якраз аўтараў, якія б працавалі на роднай мове, сярод нашай моладзі мала. Чачэнская мова ў гэтым плане губляе свае ранейшыя пазіцыі. Ёсць хіба што некалькі маладых таленавітых празаікаў, якія пішуць па-чачэнску. Іх творы пабудаваны на мастацкім асэнсаванні гістарычнага мінулага і нашай сённяшняй рэчаіснасці. А да найбольш яркіх твораў я аднёс бы здабыткі тых, каму 50 — 60 гадоў… Напрыклад, паэзію Лечы Абдулаева, апавяданні і аповесці Мусы Бексултанава, творы Султана Яшуркаева — чачэнскага пісьменніка, які жыве ў Бельгіі. Можна было б яшчэ некалькіх равеснікаў назваць…

**— Наколькі шырокі чытач у сучасных пісьменнікаў Чачні?**

— Я зазірну крыху назад, зраблю невялічкі экскурс у блізкую гісторыю. У сярэдзіне 1980-х — на пачатку 1990-х гг. быў найбольш спрыяльны час для развіцця навукі рэспублікі, чачэнскай культуры. У той перыяд сфарміравалася плеяда таленавітых навукоўцаў, пісьменнікаў. Ва ўсіх галінах з'явіліся асобы — у гісторыі, філалогіі, этнаграфіі, сацыялогіі. У часіны маёй маладосці ніводная кніга, якая выйшла з-пад пяра вядомага пісьменніка, не заставалася без увагі. Творы абмяркоўвалі ва ўніверсітэце, у педагагічнай ВНУ, чытацкая аўдыторыя вызначалася разважлівасцю, ды і шырылася з дня ў дзень. Цяпер усё неяк інача, усё больш складана… Кола чытачоў старэйшага пакалення, кола тых, хто раней захапляўся чачэнскай літаратурай, моцна скарацілася, шмат хто загінуў у войнах. Многія ўцяклі падалей ад боек і прававога бязладдзя ў далёкае замежжа. Ды так і засталіся там. А сярод сучаснай моладзі больш мала тых, хто чытае літаратуру ўвогуле, тым больш — на чачэнскай мове.

І ўсё ж, хаця магчымасці інтэрнэт-рэсурсаў істотна ўплываюць на аўдыторыю традыцыйнай кнігі, асабіста я веру, што чачэнская літаратура выжыве, як і кніга ў звычайным для нашага пакалення разуменні! Друкаванае слова вытрымае канкурэнцыю з айфонамі, айпадамі і яшчэ доўга будзе жыць паралельна з электроннымі выданнямі.

Узгадайце, якія былі сцвярджэнні пра імгненную смерць тэатра, калі з'явіўся кінематограф. А як загаварылі пра смерць кіно, калі пачало працаваць тэлебачанне… У выніку нічога нікуды не знікла. Усе тры віды мастацтва суіснуюць паралельна, захоўваючы свае асаблівасці развіцця. Чытанне друкаванай і электроннай кніг — гэта ж розныя рэчы, розныя адчуванні. Я, напрыклад, перагортваю старонкі і суперажываю героям, лічу такое чытанне камерным, інтымным дзеяннем. У друкаванай кнігі шмат прыхільнікаў, у яе ёсць будучыня. Асабіста мне дадало аптымізму адкрыццё ў самым цэнтры сталіцы нашай рэспублікі пяціпавярховага будынка Нацыянальнай бібліятэкі, дзе захоўваецца і актыўна камплектуецца фонд друкаваных кніг, газет і часопісаў. Хаця абсурдна адпрэчваць і неабходнасць электроннага фармату кніг, навуковых прац. З пункту гледжання хуткага распаўсюджвання і даступнасці інфармацыі «плюсы» інтэрнэт-выданняў бясспрэчныя. Але я пра тое, што два варыянты захавання інфармацыі і разумных думак могуць спакойна суіснаваць, не адпрэчваючы адзін другога.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сённяшні Саюз пісьменнікаў Чачні. Наколькі ён шматлікі? Ці многа моладзі ў Саюзе?**

— У савецкі перыяд Саюз пісьменнікаў Чачэна-Інгушэціі налічваў недзе каля трыццаці чачэнскіх і інгушскіх пісьменнікаў. Цяпер нашы шэрагі істотна выраслі. У Саюз пісьменнікаў Чачні ўваходзіць каля ста паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў. Гэта найперш абумоўлена тым, што істотна знізілася планка прыёму ў Саюз. Вельмі лёгка адбываецца ўваходжанне ў склад прафесійных літаратараў. Напісаў заяву і калі маеш выдадзеную кнігу — лічы, ты ўжо прыняты. А гэта яшчэ і таму, што кнігу сёння выдаць зусім не складана. Напішы пра сваё дзяцінства, аздоб выданне фотаздымкамі прыгожых дзетак — вось табе і раман, і аповесць пісаць не трэба.

У савецкі час зусім па-іншаму ўспрымалася званне пісьменніка. Літаратараў лічылі сумленнем нацыі, з нецярпеннем чакалі выхаду іх новых кніг. Цяжка было знайсці чалавека, які б не ведаў Чынгіза Айтматава, Надара Думбадзэ, Віктара Астаф'ева і шмат яшчэ каго.

Што датычыць моладзі… Сапраўды апантаных, тых, хто разумее, што такое літаратура і якіх высілкаў яна патрабуе, можна па пальцах пералічыць.

**— Ці ёсць у чачэнскіх пісьменнікаў свае газеты, часопісы, сваё кніжнае выдавецтва?**

— Не, свайго друкаванага органа няма. Але ў рэспубліцы выходзіць некалькі літаратурна-мастацкіх часопісаў. На іх старонках і друкуюць свае творы нашы празаікі, паэты, драматургі. Часопіс «Вайнах», галоўным рэдактарам якога я з'яўляюся, выходзіць на рускай мове, як і жаночы часопіс «Нана». На чачэнскай — часопіс «Орга».

Тыя, хто піша для дзяцей, друкуюць свае творы ў нашым дзіцячым часопісе «Вясёлка». Нядаўна пачалі выдаваць дзіцячы недзяржаўны часопіс «Вытокі».

**— Апошнім часам прыйшло разуменне, што клопат пра дзіцячую літаратуру, пашырэнне прасторы дзіцячага чытання — адзін са шляхоў для ўтварэння друкаванага слова… А як у вас?**

— І мы пра гэта рупімся. На памяці 1980-я гады, калі дзіцячая літаратура ў Чачні развівалася проста імкліва… Тады і адкрыўся часопіс «Вясёлка». Ён выходзіў на 16 старонках шэсць разоў на год. Тыраж кожнага нумара складаў каля 30 тысяч экзэмпляраў. Пасля часопіс перастаў выходзіць. А вось гадоў дзесяць назад ізноўку пачалося яго выданне. Сёння аб'ём кожнага нумара — 32 старонкі. У два разы больш, чым у даваенныя савецкія часы.

Але дзіцячых пісьменнікаў у нас можна па пальцах аднае рукі пералічыць. Гэта — Зайнап Сулейманава (дачка нашага славутага пісьменніка, этнографа, паэта Ахмада Сулейманава), Саід-Магамед Гелагаеў, яшчэ літаральна некалькі празаікаў, паэтаў, якія пішуць для дзяцей.

Бацькі дашкольнікаў лічаць, што іх дзеці з самага маленства павінны ведаць рускую мову. Паводле іх меркавання, штодзённае чытанне на чачэнскай мове звужае магчымасці да авалодвання рускай. Значыць, гэта адаб'ецца на кар'еры, выбары прафесіі дзіцяці. Праўда, ёсць і супрацьлеглая грамадская думка, звязаная з пераводам пачатковай школы выключна на чачэнскую мову навучання. І я прытрымліваюся гэтага пункту гледжання. Спадзяюся, што перапалом на карысць нацыянальнай мовы адбудзецца ў нашай сістэме адукацыі ў самай бліжэйшай перспектыве.

**— Як актыўна чачэнская літаратура перакладаецца на рускую мову?**

— Калі гаварыць пра паэзію, то яна амаль зусім не перакладаецца на рускую. У савецкі час перакладалася — рускімі паэтамі-перакладчыкамі праз падрадкоўнікі. Цяпер сярод маскоўскіх паэтаў ахвочых узяць ранейшы прыклад на ўзбраенне амаль няма. Хіба што адзінкі… Як памяняць сітуацыю? Патрэбна матэрыяльная зацікаўленасць перакладчыкаў…

Прозу, драматургію перакладаюць самі чачэнцы, якія добра валодаюць рускай мовай. Я лічу гэты шлях канструктыўным. Такія пераклады блізкія да арыгінала. Гэта лепей, чым перакладаць з падрадкоўнікаў.

У апошняе дзесяцігоддзе назіраецца і такая тэндэнцыя: з'яўляюцца пераклады чачэнскіх твораў на еўрапейскія мовы. Ізноў жа выканаўцамі выступаюць перакладчыкі-чачэнцы. Трэба ведаць, што з часоў першай вайны 1994 — 1996 гг. у Еўропе жыве каля 100 тысяч чачэнцаў, якія схаваліся там ад баявых дзеянняў. Шмат хто з іх выдатна валодае замежнымі мовамі. Напрыклад, у 2002 годзе ў Парыжы асобнай кнігай была выдадзена мая п'еса «Ваўкі». А ў 2006-м яе паставілі на сцэне парыжскага тэатра «Дом усходнееўрапейскай п'есы». Дарэчы, у гэтай п'есы не было рускага тэксту. Адразу з чачэнскай яе пераклаў Абубакар Абаеў. Ён — чачэнец, які жыве ў Францыі. Працаваў над перакладам у суаўтарстве з французскай пісьменніцай Камілай Сірота. П'еса вытрымала ў Францыі некалькі выданняў, добра разыходзіцца.

Нядаўна ў Швейцарыі выйшлі дзве кнігі на нямецкай мове — проза Мусы Бексултанава і мая кніга. Раней у Еўропе на нямецкай і французскай мовах былі выдадзены кнігі пісьменніка Султана Яшуркаева, на нямецкай — паэта Апці Бісултанава, другіх нашых аўтараў. Калі ўжо ў еўрапейцаў ёсць пэўная цікавасць да чачэнскай літаратуры, культуры, то, відаць, не так усё і дрэнна.

**— На якія творы паэтаў і празаікаў Чачні параілі б звярнуць увагу беларускіх перакладчыкаў?**

— Найперш на творы паэта і мысляра Лечы Абдулаева — у яго вельмі цікавыя вершы. Праўда, амаль няма перакладаў на рускую мову. Цікавая і проза Мусы Бексултанава, Эльбруса Мінкаілава, таго ж Султана Яшуркаева. Раю пазнаёміцца з паэзіяй Апці Бісултанава. Ды і моладзь нельга не заўважыць — Ісмаіла Хабаева, Асі Халікаву, Любу Арсаліеву, Асю Умараву, Хаву Гагаеву, Фаізу Халімаву, Вахі Докаева…

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

***Грозны — Мінск***

*Прэзентацыя*

# Пераклад не па разліку

Выхад кожнай новай кнігі паэтычных перакладаў — падзея значная не толькі для аўтара, перакладчыка, выдаўца, але і для абедзвюх літаратур, так бы мовіць, донара і рэцыпіента. Бо з’яўленне такога выдання, з аднаго боку, азначае распаўсюджанне, калі не сказаць, экспансію, пэўных нацыянальных ідэй, з іншага боку — узбагачэнне новымі ідэямі. А калі гаворка ідзе пра паэзію, то да ідэй і зместу дадаюцца яшчэ формы, вобразнасць, метад паэтычнага мыслення аўтара… Таму выхад кнігі Вячаслава Рагойшы «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі» (Мінск: “Кнігазбор”, 2013) — падзея надзвычай важная для беларускай літаратуры.




**Марына ВЕСЯЛУХА**

Гэта не проста кніга перакладной паэзіі, гэта сапраўдны майстар-клас для перакладчыкаў, асабліва маладых, якія толькі пачынаюць свой шлях у вялікую літаратуру. Калі ж за справу перастварэння вершаў сродкамі роднай мовы бярэцца сапраўдны прафесіянал — вядомы даследчык праблем гісторыі літаратуры, вершазнаўства, беларуска-іншанацыянальных літаратурных узаемасувязей, паэтыкі літаратурнага твора, пытанняў тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, то нават і сумнявацца не варта ў тым, што ўсё будзе зроблена як след.

У выданне ўвайшлі творы найперш украінскіх аўтараў. Сярод іх — знакамітая драма-феерыя Лесі Украінкі «Лясная песня». Асобны раздзел кнігі склалі творы сербскіх, харвацкіх, баснійскіх, славацкіх, літоўскіх, грузінскіх і казахскіх паэтаў. Дарэчы, ёсць тут адкрыцці не толькі для аматараў замежнай паэзіі, але і для даследчыкаў беларускай літаратуры. Да прыкладу, верш украінскага паэта Алексы Юшчанкі «Сэрца Сяргея Палуяна», прысвечаны памяці маладога літаратурнага крытыка і публіцыста, які пайшоў з жыцця менавіта ва Украіне, у Кіеве, ва ўзросце 19 год. Яго аўтар не проста звяртаецца да трагічнага вобраза маладога творцы, але і «ўплятае» ў свой твор радкі з трыялета Максіма Багдановіча, прысвечанага Палуяну: «Ты быў, як месяц, адзінокі», а таксама апелюе да спадчыны Францішка Багушэвіча, прыгадваючы яго запавет: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Выданне стане добрым дапаможнікам і для тэарэтыкаў літаратурнага перакладу, бо В. Рагойша згадвае свае падыходы да гэтага віду дзейнасці і — што асабліва цікава — прыводзіць прынцыпы, якімі сам кіруецца пры выбары твораў для перастварэння на беларускай мове.

«Класікі беларускай паэзіі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч пакінулі нам у спадчыну свае перакладчыцкія прынцыпы, — піша Вячаслаў Пятровіч у прадмове да кнігі, — асноўныя з якіх наступныя: *перакладаць неабходна толькі тыя творы, якія здольныя ўзбагаціць родную культуру, літаратуру, развіць нацыянальную літаратурную мову; мастацкі пераклад ажыццяўляецца па любові, а не па разліку; перакладчыку трэба валодаць мовай арыгінала, але асабліва дасканала — мовай, на якую ён перакладае; у мастацкім перакладзе павінен узнаўляцца стыль пісьменніка, асноўныя нацыянальныя асаблівасці першакрыніцы; паўнацэннасць перакладу — гэта не даслоўнасць, а дакладнасць у перадачы ідэйна-вобразнай структуры іншамоўнага твора; мастацкі пераклад, як і арыгінал, павінен валодаць несумненнымі эстэтычнымі вартасцямі*».

Такія прынцыпы курсівам вылучае сам Вячаслаў Рагойша. Думаецца, не проста так. Для перакладчыка гэта пастулаты працы, амаль запаведзі, без выканання якіх усё зробленае можна проста выкінуць на сметніцу ці спаліць… Можна доўга разважаць пра асобу аўтара, перакладчыка, іх нібыта «спаборніцтва» ў адным і тым жа літаратурным творы, аднак ні адзін з гэтых шасці пунктаў не дае і самай малой зачэпкі, каб у ім сумнявацца і лічыць нязначным.

Не можа чытач сумнявацца і ў шчырай любові Вячаслава Рагойшы да твораў, якія ён перастварае па-беларуску. Варта толькі адкрыць кнігу, і ўсё становіцца зразумела, бо выданне — не проста зборнік, а своеасаблівы падрахунак зробленага Вячаславам Пятровічам у галіне перакладу паэзіі. Выдатную падборку вершаў дапаўняе грунтоўная прадмова «Пра мастацкі пераклад жартам і ўсур’ёз», дзе можна шмат чаму павучыцца ў шаноўнага аўтара. Завяршае кнігу бібліяграфія перакладаў В. Рагойшы. Але, думаецца, рана падводзіць рахункі, бо столькі добрых спраў яшчэ наперадзе!

*Scripta manent*

# У цэнтры ўвагі — слоўнікі

Да XV Міжнароднага з’езда славістаў аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі арганізавана выстаўка «Лексічнае багацце роднай мовы», на якой прадстаўлена каля 100 айчынных слоўнікаў XVII—XXI стст.

Адкрывае экспазіцыю «Лексикон славенороссий», які быў выдадзены ў Куцейне (пад Оршай) у 1653 г. Гэта слоўнік выдатнага ўкраінскага пісьменніка Памвы Бярынды, асновай для якога паслужыў першы беларускі друкаваны слоўнік Лаўрэнція Зізанія 1596 г. Упершыню «Лексикон славенороссий» быў выдадзены ў Кіеве ў 1627 г., у кнігазборы ЦНБ НАН Беларусі — другое выданне слоўніка Памвы Бярынды. Прадмову да яго на старабеларускай мове напісаў грамадскі і рэлігійны дзеяч, кіраўнік Куцеінскай друкарні Іаіль Труцэвіч. Ён паведаміў пра неабходнасць праз 26 год перавыдаць «Лексикон», таму што ён «потребный и пожитечный многим». У свой час гэта быў самы вялікі слоўнік у Беларусі. Дарэчы, ён універсальны: двухмоўны, тлумачальны, этымалагічны, энцыклапедычны. У першай яго частцы тлумачацца словы славянскага паходжання, у другой — уласныя імёны «от еврейскаго, греческаго же и латинскаго, и от иных языков начинающаяся».

Выданні XIX ст. прадстаўлены на выстаўцы слоўнікамі ў выглядзе дадаткаў да этнаграфічных, гістарычных, геаграфічных і нават паэтычных апісанняў Беларусі. Сярод іх — прыжыццёвыя выданні твора Яна Чачота «Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie Sławiano-Krewickiej, s postrzeżeniami nad nią uczynionemi» (Песні сялян з-над Нёмна і Дзвіны, некаторыя прыказкі і ідыёмы ў мове славяна-крыўскай…) (1846) і даследавання Еўдакіма Раманава «Материалы по исторической топографии Витебской губернии» (1898).




*«Лексикон славенороссий», Куцейна, 1653 г.*

У экспазіцыі адзін з найлепшых слоўнікаў свайго часу — «Словарь белорусскаго наречия» Івана Насовіча (1870). Гэта слоўнік універсальнага характару, у яго складзе больш як 30 тысяч слоў беларускай мовы сярэдзіны XIX ст. з тлумачэннямі, якія даюць багатае ўяўленне пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Слоўнік да гэтага часу застаецца унікальным зборам беларускай лексікаграфіі.

Лексікаграфічны бум, што адбыўся ў 1920-я гады ў беларускім мовазнаўстве, адлюстроўваюць шматлікія слоўнікі розных памераў і разнастайнага зместу. Сярод іх — «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» Максіма Гарэцкага (Вільня, 1921) і вялікі (каля 60 тысяч лексем) «Расійска-беларускі слоўнік» Мікалая Байкова і Сцяпана Некрашэвіча (Мінск, 1928).

Выклікаюць цікавасць 24 выпускі «Беларускай Навуковай Тэрміналёгіі» (Мінск, 1922 — 1930), падрыхтаваныя спецыялістамі па розных галінах ведаў і супрацоўнікамі тэрміналагічных камісій Інбелкульта. У сувязі з рэпрэсіямі 1930-х гг. супраць вядучых вучоных Беларускай акадэміі навук гэта праца не была завершана. Характар моўнай палітыкі пэўнага часу адбіваўся і на складзе слоўнікаў. Іх змест у 1920-х гг. (калі ў краіне ішоў працэс беларусізацыі) адрозніваўся ад напаўнення слоўнікаў 1930—50-х гг., калі намеціўся курс на «зліццё моў», што прывяло да павелічэння колькасці запазычанняў з рускай мовы.

На некаторых слоўніках захаваліся экслібрысы, уладальніцкія і дарчыя запісы вядомых дзеячаў культуры Беларусі, сярод іх — кнігі з асабістых бібліятэк мовазнаўца і літаратуразнаўца Браніслава Эпімах-Шыпілы, публіцыста і педагога Івана Краскоўскага.

Завяршаюць экспазіцыю шматлікія сучасныя «лексіконы», якія па-ранейшаму «патрэбныя і пажытачныя многім». Яны дапамагаюць далучацца да назапашаных ведаў, садзейнічаюць пашырэнню кантактаў і спрыяюць удасканаленню літаратурнай мовы.

**Алена ЦІТАВЕЦ,
загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі**

# Увесь свет — «ТЕАРТ»?

**Асоба гэтай неардынарнай жанчыны ідэальна падыходзіць пад амерыканскі тэрмін «self-made man» («чалавек, які ўсяго дасягнуў сам»). Яна атрымала адукацыю ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце і Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, працавала ў сферах, наўпрост не звязаных з культурай. А цяпер узначальвае Цэнтр візуальных і выканаўчых мастацтваў, а таксама займаецца арганізацыяй двух найбуйнейшых сталічных міжнародных фестываляў: «Лістапад» (кіно) і «ТЕАРТ» (тэатр). Госць «ЛіМа» — Анжаліка Крашэўская.**



**— Існуе стэрэатып, што тэатрам займаюцца пераважна гуманітарыі. Як гэты від мастацтва з'явіўся ў вашым жыцці? Як атрымалася, што вы ўзяліся за арганізацыю менавіта тэатральнага форуму?**

— У маёй біяграфіі быў перыяд, калі я працавала ў Купалаўскім тэатры і займалася правядзеннем фестывалю «Панарама». Прычым у калектыў я трапіла абсалютна выпадкова і да таго часу ніколі не думала, што тэатр зробіцца сферай прафесійнай дзейнасці. Хоць дагэтуль гэты від мастацтва перакрыжоўваўся з маім жыццём…

Трэба сказаць, што партнёрам «Панарамы» з'яўляўся «Белгазпрамбанк». Паколькі фестываль ладзіўся раз у два гады, узнікла ідэя паказаць паміж імі некалькі спектакляў, аб'яднаных імёнамі класікаў. У 2008 годзе адбыўся «Тэатральны тыдзень з "Белгазпрамбанкам"», які меў назву «Глядзім Шэкспіра» — у яго межах мінчане ўбачылі «Атэла» ў рэжысуры Эймунтаса Някрошуса. У 2010-м — «Глядзім Чэхава»: сярод іншых спектакляў паказваліся «Дзядзька Ваня» Вахтангаўскага тэатра, пастаўлены Рымасам Тумінасам, і «Чайка» Тэатра Барыса Эйфмана.

Пасля банк вырашыў зрабіць асобны тэматычны праект. Мадэль «Тэатральнага тыдня» ўжо не была прыдатнай, бо дазваляла паказаць усяго некалькі спектакляў. Акрамя таго, хацелася пашырыць фестывальны рух і далей прасоўваць у Беларусі адпаведны фармат. У той час я ўжо сышла з Купалаўскага тэатра. А менеджараў, якія займаюцца гэтым вузкім напрамкам мастацтва, няшмат. Таму мая ідэя правесці падобны форум была падтрыманая.

Але патрэбная была арганізацыя, што аб'яднала б у адну структуру ўсіх людзей, якія займаліся фестывальнымі праектамі. Так узнік Цэнтр візуальных і выканаўчых мастацтваў, асноўнымі кірункамі працы якога з'яўляюцца кіно, тэатр і, адпаведна, арганізацыя ў Мінску двух буйных міжнародных фестываляў. У межах апошніх ёсць свае праекты. На «Лістападзе», напрыклад, Дні японскага кіно, праграму і канцэпцыю якога вызначае праграмны дырэктар Ігар Сукманаў. «ТЕАРТ» прапануе тэму праектнага, эксперыментальнага тэатра. Дарэчы, сёлета будзе паказана пяць эксперыментальных пастановак, тры з якіх («Patris», «Кароткачасовая», «Журботны хакеіст») з'яўляюцца ўласнай прадукцыяй Цэнтра.

**— Калі вы заснавалі «ТЕАРТ», якой бачылася яго канцэпцыя?**

— Мы імкнуліся да таго, каб айчынныя гледачы ўбачылі лепшыя спектаклі з усяго свету. Бо шмат годных пастановак проста не трапляе ў Мінск. Прычым жыхар сталіцы мае яшчэ і пэўную перавагу над прадстаўнікамі рэгіёнаў. У нас не было ідэі збіраць моладзь, ажыццяўляць конкурсныя паказы, як тое робяць калегі на магілёўскім «M@rt.кантакце». Тым не менш эксперыментальныя пастаноўкі пазней з'явіліся ў фармаце аднаго з блокаў «ТЕАРТа».

**— А хто вызначае і фарміруе такую праграму?**

— Я.

**— Толькі вы? А да чыіх парад прыслухоўваецеся — айчынных крытыкаў ці рэжысёраў?**

— Усё вырашае маё суб'ектыўнае меркаванне ці ацэнка. Наогул, я вучылася метадам уласных памылак, у працэсе падарожжа з аднаго чужога фестывалю на другі чужы форум. Некаторыя рэчы раблю толькі інтуітыўна. Але што цікава, часам тое, што адчувалася тэарэтычна, пазней пацвердзілася на практыцы. Да рэжысёраў не звяртаюся: гэта вельмі суб'ектыўная прафесія. Часам раюся з замежнымі крытыкамі. Што датычыць айчынных спецыялістаў, дык, на жаль, не ўсе з іх ездзяць на міжнародныя тэатральныя фэсты. Адно з прыемных выключэнняў — Людміла Грамыка, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва». Але нават яна не паспела паглядзець усе пастаноўкі, якія сёлета будуць паказаныя ў Мінску. Але тыя, што бачыла, ухваліла.

**— Неадназова сустракаў меркаванне, што падрыхтоўка да новага фестывалю звычайна пачынаецца ў апошні дзень працы папярэдняга…**

— Не, у нашым выпадку за два гады. Праца над двума фэстамі ідзе паралельна. Напрыклад, бачу на нейкім міжнародным форуме спектакль і хачу прывезці яго ў Мінск. Але не адразу атрымліваецца дамовіцца на той жа год. Да таго ж, усе сур'ёзныя калектывы звычайна маюць уласную праграму, распісаную на некалькі гадоў наперад. Ды і фестываль мусіць выбудоўвацца канцэптуальна. Таму да канца «ТЕАРТа» ў мяне звычайна фарміруецца план новага. Фактычна, ужо ўяўляю праграму 2014 года.

**— Не сакрэт, што спектаклі, якія паказваюцца падчас «ТЕАРТа», істотна адрозніваюцца ад прадукцыі айчынных рэпертуарных калектываў. Як вы ацэньваеце сучасны стан беларускага тэатра?**

— Апошнім часам мяне радуе, што ў Беларусі з'яўляюцца альтэрнатыўныя групы. Той жа рэжысёр Яўген Карняг, Святлана Бень (Бенька), якая заняла сваю нішу. Лялечныя калектывы наогул развіваюцца ў кантэксце еўрапейскага мастацтва. Але ў цэлым наш тэатр вельмі традыцыйны. Мы не бяжым за Расіяй, хоць пэўны ўплыў з яе боку ўсё ж адчуваецца, і не цягнемся за Еўропай. Дамінуе назіральнасць: паглядзець і дачакацца вынікаў. Але ўрэшце загадзя ведаеш, чаго чакаць, таму існуе пэўная прадказальнасць.

Сутыкаемся і з праблемай кадраў, і з арганізацыяй тэатральнага працэсу. Часам здаецца, што многія выкладчыкі ў творчых ВНУ шмат гадоў працуюць па адной і той жа сістэме. У каго вучыцца моладзі? Напрыклад, шмат хто проста не ведае, што такое праектны тэатр.

З пункту гледжання рэжысуры існуе праблема даверу да маладых. Лідары таксама не ўзнікаюць проста так, з ніадкуль. У іх трэба ўкладваць грошы, уласную ўвагу, цярпенне, імі трэба займацца. Такое ўражанне, што сталыя рэжысёры баяцца: раптам хтосьці падсядзіць!

У нас жа працуюць вельмі дасведчаныя, прафесійныя асобы. Напрыклад, у правядзенні і «ТЕАРТа», і «Лістапада» мне доўгі час дапамагалі дзве дзяўчыны — Марына Тэзіна і Лавінія Арэшка. Першая з іх цяпер жыве ў Бельгіі, другая — у Польшчы, то бок прафесійныя кадры заўжды будуць запатрабаваныя. Прыемна, што наш узровень адпавядае замежнаму, але ўзнікае пытанне, хто такіх людзей здольны замяніць?

**— Зразумела, для арганізатара цікавымі з'яўляюцца ўсе пастаноўкі. Але ўсё ж што б вы асабліва параілі лімаўскім чытачам у межах сёлетняга «ТЕАРТа»?**

— Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ведаць узрост патэнцыяльнага гледача, яго дасведчанасць у тэатры, любімы жанр. Камусьці больш падабаецца харэаграфія, другім — цырк, трэцім — уласна драматычны тэатр. Шмат залежыць ад грамадства. Прывяду просты прыклад. Мне даводзілася быць у гасцях у знакамітага нямецкага рэжысёра Франка Кастрафа. Зразумела, глядзела ў Германіі шмат спектакляў, як фестывальных, так і пастаўленых у рэпертуарным тэатры. Дык вось, 80% аўдыторыі складалі дарослыя мужчыны, якія былі гатовыя пяць гадзін глядзець сур'ёзныя, няпростыя пастаноўкі. У нас, наадварот, 80% залы на спектаклях рэпертуарных тэатраў — жанчыны, якія прыходзяць адпачыць.

Але ж немагчыма ўвесь час глядзець «Санта-Барбару»! Трэба пераступіць праз серыяльнасць і фаст-фуд у тэатры. Можна ездзіць у санаторыі Беларусі, можна — у Крым, а можна вандраваць па Еўропе. Неабходна мець уяўленне пра культуру, якая знаходзіцца па суседстве з тваёй. Немагчыма самаізалявацца: маўляў, мне гэта не падабаецца! Спачатку трэба пабачыць.

Прыемна, што ў нас ужо склалася ўласная аўдыторыя, якая паступова павялічваецца. На маю думку, пераважаюць адукаваныя людзі, якія цікавяцца сучасным мастацтвам. Якраз ім павінна быць цікавай 4-гадзінная «(А)палонія» ў пастаноўцы Кшыштафа Варлікоўскага, спектакль, насычаны грэчаскай міфалогіяй. Бо каб зразумець яе, трэба шмат чытаць і быць падрыхтаваным. А вось расійскі тэатр нам бліжэй, хоць, па сутнасці, таксама далёка адарваўся ад нас. Таму больш шырокай аўдыторыі магу параіць «Кацярыну Іванаўну» яраслаўскага Тэатра драмы імя Фёдара Волкава і «Добрага чалавека з Сезуана» маскоўскага Тэатра імя Пушкіна.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

*Не праміне*

## Сакральны канфіскат

Нацыянальны гістарычны музей Беларусі прэзентуе выстаўку «Выратаваныя каштоўнасці», арганізаваную сумесна з філіялам Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея — Музеем «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці». Яна дзейнічае ў межах доўгатэрміновага выставачнага праекта «Культура не ведае правінцыі», мэта якога — паказаць унікальныя калекцыі абласных і раённых музеяў краіны.

Музей «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці» — адзіная ў Беларусі і на тэрыторыі СНД установа, дзе экспануюцца творы мастацтва і прадметы антыкварыяту, канфіскаваныя пры спробе незаконнага вывазу іх за мяжу. На выстаўцы прадстаўлена больш як 300 помнікаў гісторыі і культуры, твораў выяўленчага мастацтва, якім пашанцавала вярнуцца з небыцця і заняць пачэснае месца ў музейных залах.

Экспазіцыя складаецца з помнікаў нумізматыкі і баністыкі VI — XX стст. Гэта манеты Візантыі, еўрапейскіх краін, Рэчы Паспалітай і інш.



*А. Рэйндаль «Застолле». Францыя, папера, гравюра па метале, XIX ст.*

Калекцыя прадметаў з каштоўных металаў прадстаўлена паясамі і кінжаламі працы майстроў Паўночнага Каўказа, срэбнымі партсігарамі і іншымі вырабамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Экспануюцца творы краін Усходу, сярод якіх — кітайскія дэкаратыўныя накладкі, сярэднеазіяцкі посуд з медзі і іншае. Заходнюю Еўропу прадстаўляюць рыжскі хрусталь, вытанчаныя прадметы побыту і посуд, графіка. Адной з найбольш цікавых частак выстаўкі з'яўляецца калекцыя абразоў XVIII — XX стст., бо рускі іканапіс — адметная з'ява сусветнай мастацкай культуры. Дапаўняюць экспазіцыю сакральнага мастацтва ўзоры Растоўскай фініфці і рускага меднага ліцця, рарытэтныя кніжныя выданні.

**Таццяна ШЫМУК**

*Думка чытача*

## Гукі класікі

13 ліпеня я з вялікім задавальненнем праглядала тэлевізійны фільм, створаны каналам «Беларусь-3». Стужка распавядала пра незвычайны музычны канцэрт, які прайшоў увесну гэтага года ў студыі Дома радыё.

Вечар музычнай культуры праводзіў аўтар і вядучы эксклюзіўнага праекта «Канцэртная зала» Віктар Кісцень, выдатны кампазітар, гукарэжысёр, арганіст. Адметнасцю праграмы былі чароўныя гукі класікі І. Баха, А. П'яцолы, Ф. Шапэна, Э. Саці ў выкананні славутага калектыву Белдзяржфілармоніі «Класік-джаз трыа»: Віктар Ільшэўскі (кантрабас), Ігар Аўдзееў (ударныя) пад кіраўніцтвам выдатнай піяністкі Таццяны Старчанка. Гукарэжысёрам канцэрта быў таленавіты Валерый Бяляеў.

Поспех музыкантаў выразна падкрэслівала захопленая атмасфера вечара. Адчувалася вялікая зацікаўленасць і ўдзячнасць глядацкай залы, гучалі бурныя апладысменты, воклічы «брава!». Стала відавочным: любімыя мелодыі класічнай музыкі глыбока закранулі гледачоў.

**З павагай, чытачка газеты «ЛіМ»
Валянціна ФІЛІПЕНКА**

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ала ЯКАЎЛЕВА, загадчыца Івянецкай дзіцячай бібліятэкі Валожынскага раёна, распавядае пра краязнаўчыя пошукі супрацоўнікаў установы:**

— Івянецкі рэгіён мае багатыя гістарычныя і культурныя традыцыі, звычаі, рамёствы. Зберагчы гэтую непаўторнасць, перадаць нашчадкам жывыя галасы мінулага — задача калектыву бібліятэкі. Краязнаўства заўсёды з'яўлялася адным з прыярытэтных кірункаў у нашай дзейнасці. Бібліятэка шмат гадоў працуе па доўгатэрміновай праграме «Скарбніца», мэта якой — прапаганда і распаўсюджванне ведаў пра нацыянальную спадчыну, знаёмства з гісторыяй, традыцыямі і звычаямі беларусаў. Асаблівую ўвагу надаем гістарычнаму мінуламу і сучаснаму жыццю пасёлка, яго цікавым жыхарам. Вось тут вельмі дапамагаюць матэрыялы нашага краязнаўчага цэнтра «Мой родны край», дзе досыць поўна прадстаўлены кнігі і матэрыялы пра Івянец, Валожынскі раён, творы мясцовых пісьменнікаў, шэраг тэматычных папак.

Станаўленне чалавека немагчыма без фарміравання пачуцця гонару за сваю Радзіму. Непасрэдная размова з людзьмі, якія прымалі ўдзел у гістарычных падзеях, робіць вялікі ўплыў на кожнага, асабліва на дзяцей і падлеткаў. Таму рэгулярна арганізуем сустрэчы са старажыламі пасёлка, ветэранамі вайны, былымі вязнямі канцлагераў… Вечар-партрэт «Паэт-франтавік», прыкладам, прысвяцілі ўдзельніку вайны Уладзіміру Градоўкіну. Праводзім экскурсіі да помнікаў, гутаркі пра юных партызан Валожыншчыны.

У Івянцы шмат цікавых гістарычных куткоў і архітэктурных помнікаў. Падчас канікул арганізоўваем экскурсіі: «Івянец: гістарычныя мясціны», «Сёмае цуда Міншчыны — Белы касцёл», «Архітэктурныя помнікі Івянца», «Івянецкія святыні».

Выхаванне культуры зносін з прыродай таксама пачынаецца з дзяцінства. Таму ўлетку звычайна ладзяцца экалагічныя гутаркі-экскурсіі на бераг рэчкі «Па сцяжынцы над Валмянкай», «Рака Валмянка». Шмат карыснай інфармацыі могуць атрымаць падлеткі падчас завочных экавандровак па карце раёна «Блакітныя стужкі» (рэкі раёна), «Налібоцкая пушча — сястра Белавежы», падарожжа «Пра што гаворыць назва» (пэўнага населенага пункта ці мясціны).

Супрацоўнікі бібліятэкі займаюцца пошукам новых краязнаўчых матэрыялаў, вядуць даследчую работу. Як вынік гэтай працы — артыкулы ў друку. У раённай газеце «Працоўная слава» ўбачылі свет артыкулы «300 год гісторыі, альбо Францішканцы ў Івянцы», «Аперацыя "Перазвон"» (пра разгром партызанамі івянецкага гарнізона), «Вогненныя вёскі ў памяці» (расповед пра спаленыя вёскі Івянецкага сельсавета), «Івянецкі карэспандэнт "Нашай Нівы"» (пра жыццёвы і творчы шлях мясцовага паэта Міхалка Петрукова).

*Праекты*

# У школу — разам з класікам

**Міра ІЎКОВІЧ**

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прапануе новы музейна-педагагічны праект для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Крочым у школу разам з Коласам», які дапаможа дзіцяці не толькі псіхалагічна падрыхтавацца да школы, але цікава і пазнавальна правесці час.

На першых занятках будзе прапанавана знаёмства з самім музеем, творамі пісьменніка для дзяцей, інтэрактыўная гульня «Таямніцы дома Песняра». Падчас другіх у «Творчай майстэрні» пакажуць лялечны спектакль паводле матываў беларускай народнай казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа «Як кот звяроў напалохаў» і правядуць майстар-клас па вырабе свечак з салёнага цеста. Дарэчы, на шостых чакаецца сустрэча з беларускім дзіцячым пісьменнікам. Падчас заключных, восьмых, заняткаў будуць падведзены вынікі поспехаў і творчых намаганняў хлопчыкаў і дзяўчынак.

Спяшайцеся падаць заяўкі на ўдзел у праекце! Падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце музея: *www.yakubkolas.by*

*Музейны ўнікат*

# Промні веры хрысціянскай

Выстаўка «У промнях веры хрысціянскай», якая праходзіць у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь і будзе працаваць да верасня, з'яўляецца водгукам важнай падзеі ў гісторыі — Хрышчэння Кіеўскай Русі ў 988 годзе.

**Галіна ФЛІКОП**

Тэму хрышчэння — таінства Хрысціянскай царквы — разгортвае адзін з трох тэматычных блокаў экспазіцыі. Яго пярлінай з'яўляецца калекцыя нацельных крыжыкаў. Найбольш раннія з іх належаць да тых часоў, калі хрысціянства толькі прыйшло на ўсходнеславянскія землі ў X ст. Аднак з прыняццем новай рэлігіі старыя традыцыі і народныя вераванні саступілі ёй месца не адразу. Пра гэта сведчаць амулеты-змеевікі XII ст., якія прадстаўляюць на адным баку выявы хрысціянскіх святых, а на другім — вужакаў, сімвалаў паганства.

З таінствам хрышчэння і святам Богаз'яўлення (Вадохрышча) знаёміць наведвальнікаў і адпаведныя прадметы царкоўнага начыння: купель, куды падчас хрышчэння акуналі немаўля, вадасвятныя крыжы і чашы. Звесткі пра хрост немаўлят падрабязна занатоўваліся святарамі ў спецыяльных метрычных кнігах. На выстаўцы прадстаўлены выпіскі з іх — метрыкі апошняй трэці XIX — пачатку XX ст.

Дапаўняюць названы блок — і тэматычна, і па-мастацку — жывапісныя, графічныя і адлітыя з металу выявы Яна Хрысціцеля — святога, які, паводле Біблії, першым ажыццявіў таінства хрышчэння. Абразы «Хрышчэнне ў Іардане» (іншая назва — «Богаз'яўленне») акурат ілюструюць эпізод Новага Запавету, калі Ісус Хрыстос у водах Іардана атрымаў хрышчэнне ад Яна Хрысціцеля. Сапраўднай каштоўнасцю музейнага збору з'яўляецца твор, дзе выява гэтага сюжэта змешчана ў выдзяўбленым коле. Гэты абраз беларускай школы, па ўсёй верагоднасці, быў напісаны ў XVII ст. і належыць да самых ранніх помнікаў іканапісу ў калекцыі музея.

Другі тэматычны блок прадстаўляюць прадметы храмавага начыння і рэчы, якія паказваюць функцыянаванне царквы. Пераважна літургічны посуд, а таксама богаслужэбныя кнігі, святарская вопратка, дакументы. Гонарам музейнай калекцыі з'яўляецца кацея — ручное кадзіла XII — XIII ст. Гэта адзіны прадмет такога роду і названага часу ў зборах краіны. Яго каштоўнасць тлумачыцца яшчэ і тым, што раннехрысціянскіх прадметаў набажэнства на нашых землях амаль не захавалася.

На выстаўцы можна ўбачыць і напрастольнае Евангелле, надрукаванае Мамонічамі ў Вільні ў 1600 г. Выклікаюць замілаванне аздобы гэтай кнігі. Традыцыйна такія выданні былі багата ўпрыгожанымі: вокладка абцягвалася аксамітам або скурай, а на яе прымацоўваліся металічныя накладкі з выявамі чатырох евангелістаў. Гэты асобнік абгорнуты ў барвовы аксаміт. Яго аздабляюць выгравіраваныя на метале 4 выявы, аднак тут прадстаўлены не самі евангелісты, а іх сімвалы: анёл, леў, арол, цяля. Выкананыя самадзейным майстрам XVII ст, творы выклікаюць у сучаснага гледача лагодную ўсмешку. Сапраўды па-наіўнаму трактаваны гэтыя вобразы. Відавочна, тагачасны творца цьмяна ўяўляў сабе выгляд экзатычнага льва, у выніку чаго апошні на металічнай выяве больш падобны да сабакі, чым да цара звяроў. Астатнія персанажы таксама трактаваны па-свойму: арол мае больш агульнага з нейкай свойскай птушкай, анёл прадстаўлены ў выглядзе летуценнай дзяўчынкі, а цяля лёгка паблытаць з казой. У тэхнічным плане гэтыя накладкі таксама недасканалыя, разам з тым ім уласцівы свой каларыт і прывабная наіўнасць.



*Абраз «Хрышчэнне ў Іардане» (або «Богаз'яўленне»), беларуская школа, XVII ст.*

Бясспрэчную каштоўнасць маюць літургічныя прадметы з Дабравешчанскай царквы вёскі Куноса Нясвіжскага раёна. Да іх ліку належаць два пацiры, дыскасы, трыкіры, пакраўцы і інш. Гэтыя рэчы былі выяўлены падчас музейнай экспедыцыі 1972 г. у зачыненым храме, што і паспрыяла іх выратаванню ад знішчэння. Комплекс дае досыць поўнае ўяўленне пра начынне беларускіх праваслаўных цэркваў на мяжы XIX і XX стст.

Трэці тэматычны блок прысвечаны манастырам. Менавіта яны, пачынаючы з раннехрысціянскіх часоў, з'яўляліся культурнымі, адукацыйнымі і навуковымі асяродкамі на нашых землях. Пра гэта сведчаць кнігі XVII ст., якія друкаваліся ў Куцеінскім і Магілёўскім Богаяўленскіх мужчынскіх манастырах, унікальныя дакументы XVI — XVIII стст. архіва Слуцкага Траецкага манастыра. Уявіць побыт манахаў дапаможа посуд XVIII ст. Куцеінскага жаночага манастыра, які патрапіў у музейныя зборы яшчэ ў 1920-я гг. і ўяўляе цікавасць пры вывучэнні гісторыі музейнай справы Беларусі.

# Багацці Стэфана Казлоўскага

Рамантык, вандроўнік, этнограф, мастак-самавук… Усё гэта датычыць Стэфана Казлоўскага. Упершыню пачуў пра яго ад краязнаўцы, даследчыка літаратуры і падарожніка Алеся Баркоўскага. Калі ж апошні прапанаваў мне наведаць Стэфана Вінцэнтавіча на яго хутары Рудзішкі, што на Астравеччыне, палічыў за падарунак лёсу!

**Лявон ЦЕЛЕШ**

Нарадзіўся гэты цікавы чалавек у снежні 1944 года на беларуска-літоўскім памежжы. Яго бацька быў членам Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі, не раз сядзеў у польскай турме, загінуў на фронце ў 1945-м. Праз год памерла і маці хлопчыка, таму яго выхоўвала бабуля. З дзяцінства вабіў Стэфана свет падарожжаў, прага першаадкрывальніцтва і прыгод. Адразу пасля арміі паехаў працаваць на Крайнюю Поўнач. Цікавіўся жыццём, бытам, фальклорам мясцовых народаў — эвенаў, юкагіраў. Свае назіранні занатоўваў у палявых дзённіках, якія вёў выключна на беларускай мове. А яшчэ нямала маляваў. Жывучы на Поўначы, удасканаліў майстэрства, напісаў шэраг карцін з сібірскімі далягладамі, якія сёння ўпрыгожваюць сцены яго хаты. У свой час зрабіў і малюнкі нацыянальных касцюмаў мясцовых жыхароў.

Пасябраваў з эвенамі, засвоіў іх мову і фальклор. У той час пра гэтую народнасць амаль нічога не пісалася. Таму Стэфан быў першым, хто ўдзяліў ім увагу. Артыкулы пра іх побыт, легенды, казкі, занатаваныя і апрацаваныя Стэфанам, друкаваліся ў часопісе «Вокруг света», у газетах «Магаданская правда», «Новая Колыма», «Омсукчанский рабочий», часопісе «Вясёлка», польскіх газетах «Czerwony sztandar», «Ніва», «Зорка» і іншых выданнях. У характары эвенаў ён знайшоў шмат агульнага з беларусамі: добразычлівасць, гасціннасць, мяккасць характару.

Мясцовыя жыхары паважалі маладога даследчыка і падарылі яму нацыянальны эвенскі касцюм, шаманскі бубен. З мноства рэчаў, якія прывёз з Поўначы, вялікай увагі заслугоўвае сярэбраны пояс. Стэфан распавёў, што якуты вырабілі яго ў 1867 годзе са срэбра польскага ссыльнага, удзельніка паўстання 1863 года. Потым падарылі пояс беларускаму ссыльнаму, які прывёз унікальную рэч у Вільню. А падарыў пояс Казлоўскаму адзін дзядуля пасля лекцыі ў Вільні, падчас якой Стэфан расказваў пра Калыму і эвенаў. На вырабе выразна відаць дата — «1867». Дарэчы, мой субяседнік паведаміў, што яго прадзед Тамаш удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Гаспадар расказаў таксама, што яго бацька быў польскім вайсковым афіцэрам, сябраваў з Максімам Танкам. Першае знаёмства самога Стэфана з паэтам адбылося ў 1966 годзе і пачалося з яго пісьма ў рэдакцыю часопіса «Полымя», дзе галоўным рэдактарам у той час быў Максім Танк. У адказ прыйшоў ліст, у якім паэт спытаў, ці не прыходзіцца Стэфан родзічам Вінцэнту Казлоўскаму. Аказваецца, Максім Танк сябраваў з яго бацькам. Перапіска Стэфана з паэтам набыла пастаянны характар. На жаль толькі, лісты яго не захаваліся.

Акрамя беларускай, рускай і эвенскай моў, Казлоўскі добра валодае літоўскай і польскай. Падчас гутаркі выканаў на незразумелай мне мове песню, у якой можна было ўлавіць польскія, літоўскія і беларускія словы. Такую мову чуў упершыню. Стэфан Вінцэнтавіч растлумачыў, што гэта славяна-літоўскі дыялект, на якім у далёкім мінулым размаўлялі жыхары старажытнага Нальшанскага княства са сталіцай у Крэве, якое згадваецца з XIII ст. і ахоплівала тады тэрыторыю сённяшніх Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага, Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў. З узнікненнем Вялікага Княства Літоўскага Нальшанскае княства перастала існаваць. Магчыма, у Беларусі няма больш нікога, хто б ведаў забытую нальшанскую мову.

Дзе б ні вандраваў С. Казлоўскі, яго цягнула на Астравеччыну. Вярнуўшыся на радзіму, з задавальненнем акунуўся ў грамадскае жыццё. Займаўся аднаўленнем роспісу столі паўразбуранага касцёла ў вёсцы Свіранкі, часта сустракаўся з вучнямі, расказваў пра свае падарожжы і вучыў любіць свой край.

*Шлях да святыняў*

# Баркалабава — месца намоленае

**У 1654 годзе, згодна з паданнем, на гару каля старажытнага паселішча на Дняпры ўз'ехаў ротмістр і дзісненскі стараста Баркулаб Іванавіч Корсак. Седзячы на кані, ён уважліва агледзеў ваколіцы, якія яму дужа спадабаліся. І вырашыў пабудаваць тут замак.**

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Пра гэта сведчыць «Баркулабаўскі летапіс»: «Яго міласць, пан Баркулаб Іванавіч Корсак, ротмістр і стараста дзісненскі, з ласкі гаспадара караля за вялікія пачэсныя заслугі, за смеласць, самаахвярнасць і за нястомнасць у вайсковай і рыцарскай справе ў лесе глухім, на грунце лясным, ва ўрочышчы Брус, аб'явіўшы волю і даўшы прывілеі на 12 год людзям прыхожым, з волі Божай, з благаслаўлення духавенства заснаваў замак імем сваім Баркулабаў».

Менавіта тут знаходзіцца старажытны Свята-Узнясенскі жаночы манастыр, заснаваны пабожнікам праваслаўя Багданам Статкевічам і архімандрытам Іаілем Труцэвічам у 1623 годзе. У яго саборным храме захоўваецца ікона Божай Маці, якую, паводле легенды, падарыў у 1659 г. князь Пажарскі, вяртаючыся з войскамі з Літвы ў Расію. На паклон абразу сцякаліся не толькі праваслаўныя вернікі, але і ўніяты, католікі. Ікона праславілася цудамі ў час Паўночнай вайны і вайны 1812 года. У 1882 г. храм згарэў, але іканастас і цудатворны абраз былі выратаваны.

Гэта адна з самых шаноўных ікон Божай Маці ва Усходняй Беларусі. Баркалабаўская Адзігітрыя, якая напісана тэмперай на хвойнай аснове з вызалачаным разным фонам, — шэдэўр беларускай школы іканапісу, які разам з тым захоўвае выразныя рысы яго старажытнавізантыйскага праваобраза. Божая Маці адлюстравана амаль паклонна, апранута ў цёмна-пурпурны мафорый, упрыгожана трыма залатымі ажурнымі зоркамі і залатою карункавай лямоўкай з кутасамі. Цёмна-зялёнае адзенне мае шырокі жамчужны абніз на гарлавіне і поручах, залаты німб гравіраваны прамяністым ззяннем. Маленькі Хрыстос, у белым хітоне-сарочцы з адкладным каўняром, падперазаны чырвоным поясам, злёгку павернуты да Багародзіцы і благаслаўляе правай рукой, а ў левай — трымае скрутак.

У час Вялікай Айчыннай вайны цудатворны абраз схавалі выгнаныя з манастыра манахіні (паводле іншых вусных даведак, ён знаходзіўся ў капліцы на чыгуначнай станцыі Быхаў). У 1953 годзе быў перанесены ў быхаўскі Свята-Троіцкі храм і змешчаны ў спецыяльны прысценны кіёт. 24 ліпеня 2010 года ікона Божай Маці Баркалабаўскай у суправаджэнні тысяч вернікаў зноў вярнулася ў жаночы манастыр. Захоўваецца ў храме Святога прарока і Хрысціцеля Іаана. Пакланіцца ёй прыязджаюць вернікі не толькі з Беларусі, але і з суседніх краін. Асабліва шмат багамольцаў 24 ліпеня — у дзень цудатворнага з'яўлення абраза.

Апошнім часам ходзіць шмат чутак пра цуды ў Свята-Узнясенскім жаночым манастыры. На яго тэрыторыі з'яўляюцца бесцялесныя фігуры дзвюх манахінь: адна высокая, другая ніжэйшая. Іх неаднойчы бачылі і мясцовыя рыбакі на беразе Дняпра, якія ад нечаканасці кідалі вуды і ўцякалі. Нават тады, калі тэрыторыя пуставала, многія вяскоўцы назіралі дзіўныя рэчы: у паўразбураных будынках само па сабе запальвалася святло і гасла. Часам выразна чуліся ўздыхі, галасы, па сценах паўзлі цені. Магчыма, усё тлумачыцца блізкасцю манастырскіх могілак.

Ігумення Антонія часта ўспамінае і іншыя цікавыя, загадкавыя факты. Падчас Вялікай Айчыннай вайны на Быхаўшчыне ішлі кровапралітныя баі. Але манастыр, які тады быў закрыты, вайна не закранула. Наступаючы і адступаючы, гітлераўцы прайшлі міма. Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС раёну зноў жа нямала дасталося. Толькі невялікі пятачок, тэрыторыя храма, застаўся зусім чыстым.

Незвычайнае месца, святое, намоленае…

**Газета «Літаратура і мастацтва» — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**



*Царква Іаана Прадцечы Баркалабаўскага жаночага манастыра.*

# Ён марыў пра дзяржаўнасць…

**Сярод славутых землякоў асаблівае месца належыць беларуска-расійскаму вучонаму, гісторыку, архівісту, педагогу, царкоўнаму і грамадскаму дзеячу Платону Жуковічу, які нарадзіўся ў Пружанах у верасні 1857 года ў сям'і першага настаяцеля Свята-Аляксандра-Неўскага сабора.**

Наталія ПРАКАПОВІЧ

Пачатковую адукацыю Платон Мікалаевіч атрымаў дома і ў мясцовай царкоўнапрыходскай школе. У 1867 г. паступіў у Кобрынскае духоўнае вучылішча. Потым была Віленская духоўная семінарыя — адна з вядучых устаноў краю, дзе давалі ляшчэ і добрую свецкую адукацыю. Па заканчэнні вучэльні за «весьма хорошие успехи и благонравие» па семінарскай традыцыі быў узнагароджаны кнігамі. І адразу — царкоўна-гістарычны факультэт Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Вялікі ўплыў на будучага вучонага аказалі яго настаўнікі, асабліва прафесар М. Каяловіч, які паходзіў з Беларусі і быў адным са стваральнікаў ідэалогіі «заходнерусізму». На трэцім курсе Платон Жуковіч абраў тэму для даследавання «Кардинал Гозий и польская церковь его времени», яна перарасла ў дысертацыю, якую наш зямляк абараніў у 1881 г. і атрымаў ступень кандыдата багаслоўя.

Пасля заканчэння акадэміі П. Жуковіч выкладаў арыфметыку і геаграфію ў Полацкім духоўным вучылішчы. Так у яго жыцці пачаўся «беларускі перыяд». Настаўніцтва сумяшчаў з навуковай дзейнасцю. У 1883 г. атрымаў навуковую ступень магістра багаслоўя і запрашэнне на працу ў Кіеўскую духоўную акадэмію. Аднак вярнуўся ў Полацк, адкуль быў пераведзены на пасаду наглядчыка мужчынскага Віленскага духоўнага вучылішча, а ў 1884-м пачаў выкладаць у Літоўскай духоўнай семінарыі.

Праца ў Вільні дала новы штуршок для навуковых пошукаў. Багатая гісторыя горада, наяўнасць архіваў, перыядычных выданняў, супрацоўніцтва з іншымі вучонымі паспрыялі пашырэнню тэматыкі даследаванняў. Наш суайчыннік заняўся вывучэннем гісторыі Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, яе ўплыву на жыццё Беларусі. Яго даследаванні ў гэтай галіне і сёння застаюцца асноўнай крыніцай для вывучэння сістэмы духоўнай каталіцкай адукацыі ў Расійскай імперыі XIX ст. Пяру П. Жуковіча належаць і першыя працы па гісторыі ўніяцкай адукацыі ў Беларусі. Трэба адзначыць, што павага да вучонага была настолькі высокай, што 42-і нумар «Литовских епархиальных ведомостей» за 1891 год поўнасцю прысвяцілі П. Жуковічу — адзіны выпадак як у гісторыі Віленскай семінарыі, так і ў гісторыі самога выдання.

З 1891-га пачынаецца «пецярбургскі перыяд» жыцця і навуковай дзейнасці выхадца з Пружан. Пасля смерці загадчыка кафедры рускай грамадзянскай гісторыі Пецярбургскай духоўнай акадэміі М. Каяловіча яго пасаду прапанавалі Платону Жуковічу.

Асноўным кірункам даследаванняў нашага земляка былі рэлігійныя адносіны ў Рэчы Паспалітай, палітыка Расійскай імперыі ў Беларусі. Як і большасць вучоных-гуманітарыяў таго часу, ён стаяў на пазіцыях афіцыйнай расійскай гістарыяграфіі і ідэалогіі «заходнерусізму».

Можна па-рознаму ставіцца да высноў П. Жуковіча, што датычылі праблемных старонак гісторыі Беларусі, аднак яго спадчына і багаты набор першакрыніц, якімі ён карыстаўся, могуць стаць асновай для далейшага іх вывучэння сучаснымі даследчыкамі.

Разам з асвятленнем царкоўнай гісторыі ў сферу інтарэсаў навукоўца ўваходзілі іншыя тэмы. Цікавіўся гісторыяй інвентарнага пытання, сялянскай рэформай 1861 г., адміністрацыйным кіраўніцтвам, судова-прававымі адносінамі, становішчам розных саслоўяў. У выніку з'явіліся працы: «О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России», «Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II», «Западная Россия в царствование императора Павла I» і інш.

Даследчык супрацоўнічаў з рознымі перыядычнымі выданнямі, друкаваўся ў «Литовских епархиальных ведомостях», «Виленском вестнике», «Христианских чтениях», «Историческом вестнике», «Записках Академии Наук по историко-филологическому отделению», «Журнале министерства народного просвещения». Перапісваўся з многімі дзеячамі, у тым ліку з рускім мовазнаўцам А. Шахматавым. Браў удзел у рэфармаванні Рускай Праваслаўнай Царквы, падрыхтоўцы і правядзенні Усерасійскага царкоўнага Сабору 1917 г.

Рэвалюцыйныя падзеі 1917 г. карэнным чынам змянілі жыццё Платона Жуковіча. Ён выйшаў у адстаўку, а ў 1919 г. уладкаваўся на працу ў Дзяржаўную публічную бібліятэку, якая ўзяла на сябе адказнасць за лаяльнасць вучонага, «служившего при царском и буржуазном режиме».

У гэты час адбыліся некаторыя змены ў яго поглядах. П. Жуковіч вітаў самавызначэнне беларусаў, рабіў крокі па навуковым абгрунтаванні іх дзяржаўнасці. У кастрычніку 1918 г. ён разам з Я. Карскім увайшоў у склад кіраўніцтва Беларускага вольна-эканамічнага таварыства, арганізаванага ў Петраградзе пры садзейнічанні беларускіх секцый РКП(б). Суполка ставіла на мэце працу па ўсебаковым развіцці роднага краю. Па даручэнні таварыства вучоны склаў падрабязную бібліяграфію гісторыі Беларусі, удзельнічаў у стварэнні ўніверсітэта ў Мінску.

Па прапанове акадэміка І. Пальмава ў лістападзе 1918 г. наш зямляк быў абраны членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук. Дзейнасць П. Жуковіча была важным крокам у вывучэнні канфесіянальнай і грамадзянскай гісторыі Беларусі і Расіі, станаўленні беларускага славяназнаўства. Аднак далейшым яго планам не наканавана было ажыццявіцца. У лістападзе 1919 г. Платон Мікалаевіч памёр у Петраградзе.

Сёння навуковая спадчына П. Жуковіча захоўваецца ў архіве Расійскай акадэміі навук (Санкт-Пецярбургскае аддзяленне), частка яго прыватнага кнігазбору — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (была набыта Дзяржаўнай бібліятэкай БССР у 1921 г.).

На жаль, імя Платона Жуковіча вельмі мала вядома як даследчыкам, так і землякам. Яго спадчына чакае ўсебаковага вывучэння, а імя — ушанавання на роднай зямлі.

*Між іншым*

# Родная Цна. Назаўсёды

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

Напісаць кнігу пра родную Цну марыў пісьменнік Мікалай Калінковіч. Напярэдадні дня яго памяці, які адзначаўся напрыканцы ліпеня, вёска Цна Лунінецкага раёна адсвяткавала 400-годдзе першага ўпамінання ў летапісных крыніцах.

Спачатку, як і належыць, ушанавалі старажылаў. Дзякуючы гэтым сумленным і працавітым вяскоўцам падлеткі пасляваеннага пакалення выхоўваліся патрыётамі Айчыны, што і адлюстраваў у сваіх кнігах іх зямляк. З асаблівай павагай адгукаўся ён пра сям'ю Пуляк. Сёлета Алену Пятроўну і Рыгора Ільіча, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, віталі з 70-годдзем сумеснага жыцця! Яшчэ 17 сем'яў юбіляраў, якія 50 і больш гадоў таму ўзялі шлюб, былі ўшанаваны падчас урачыстасці. Юным і дарослым гасцям прапанавалі своеасаблівае падарожжа па вуліцах вёскі, са спыненнем на адметнасцях кожнай, з ушанаваннем самых паважаных суседзяў і дбайных жыхароў.

Цне пашчасціла на творцаў. Тканыя і вышываныя вырабы здольных майстрых афарміліся ў захапляльную выстаўку. Гучалі вершы мясцовых паэтаў, якія славілі родную Цну новымі старонкамі сучаснага летапісу, быццам выконваючы запавет радзімазнаўцы Мікалая Калінковіча.

# Разняволеная тэхніка акварэлі

**Даволі часта ў жыцці мастакоў здараецца наступная акалічнасць: творца піша карціны, спрабуе актыўна ўдзельнічаць у мастацкіх выстаўках, але пры жыцці так і не адкрывае выстаўку персанальную. Так склаўся лёс і ў братоў Свістуновых, таленавітых майстроў, якія паказалі разняволеную тэхніку акварэлі і — пакінулі яе беларускай гісторыі.**


Міхаіл Свістуноў «На возеры».

І вось нарэшце сёлета, у ліпені, мінскі Палац мастацтваў экспанаваў персанальную выстаўку Валерыя і Міхаіла.

Браты Свістуновы — прадстаўнікі віцебскай мастацкай школы, скончылі графічна-мастацкі факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Выкладчыкамі іх былі вядомыя педагогі-мастакі І. Сталяроў і Ф. Гумен. Абодвум творцам уласціва бязмежнае захапленне хараством роднага краю, услаўленне мілагучнасці і спакою, мудрасці і велічы, раўнавагі і гармоніі. Іх карціны захапляюць прадуманасцю, вымаляванасцю вобразаў, разам з тым бачны стыхійныя магчымасці пісьма акварэльнымі фарбамі па мокрай паперы.


Валерый Свістуноў «Валошкі».

У кожнага быў свой адметны мастакоўскі почырк. Міхаіл плённа працаваў у тэхніцы акварэлі, добра адчуваў матэрыял, яго асаблівасць і характэрнасць. Нарадзіўшыся ў вёсцы Актавія Крупскага раёна, ужо з малога ўзросту ён з захапленнем маляваў краявіды, якія бачыў вакол, ніколі не быў абыякавым да прыгажосці. У палотнах Міхаіла Свістунова адчуваецца моцная мужчынская рука, хоць акварэльная тэхніка непрадказальная, загадкавая. Работы яго адлюстроўваюць магутныя архітэктурныя збудаванні: «Стары Смаленск», «На краю вёскі», «Браслаўскія матывы», «Курган славы», «Прылукі», «Старая Рыга», серыя «Індустрыяльная будоўля», «Мазырская нафта» і інш. Свабода валодання матэрыялам у творах падпарадкавана трапнасці малюнка, неабходнай у падобных архітэктурных матывах.

Акрамя акварэлі, Міхаіл Свістуноў займаўся мастацкім праектаваннем — аформіў шэраг музеяў, у тым ліку Музей-сядзібу Іллі Рэпіна ў Здраўнёва пад Віцебскам, музей Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка і музей прыроды ў Экалагічным цэнтры навучэнцаў (абодва — у Мінску), удзельнічаў у афармленні абласных і мінскіх школ, дзіцячых садкоў і інш. У 1989 годзе мастак выканаў канцэптуальны праект «Прапанова да праграмы стварэння музеяў дзеячаў культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь».

У акварэлях Валерыя Свістунова з серыі «Зямля мая» энергія б'е праз край. Яго пейзажы далёка не прывідныя і не пустэльныя. Зямля жыве людскімі справамі і клопатамі. Трапнасць, нават некаторая жорсткасць малюнка ў яго творах спалучаецца з адкрытасцю колеравых кантрастаў («Прасторы вольныя зямлі», «Вечаровае рэха», «Вечар»). Немагчыма адным словам сказаць пра творы Валерыя, настолькі шырокую гаму ўражанняў яны ўскалыхваюць! Акварэлі яго, здаецца, прагнуць змясціць у сабе Сусвет, часам набліжаюць да гэтага наша ўяўленне шматпланавасцю сюжэтаў, шматколернасцю і зычнасцю фарбаў, а пачуццёвы лад у іх настольні абвострана-выразны, што выклікае амаль фізічнае адчуванне веснавой энергіі, абнаўлення, свежасці і дрыготкасці паветра, яго натоленасці пахамі травы і кветак («Адліга», трыптых «На старажытнай зямлі. Заслаўе»).

Сэнсавым акцэнтам краявідаў Валерыя Свістунова з'яўляюцца птушкі, што лунаюць над роднымі палеткамі: «Ляціце, птушкі», серыя «Прыцягненне зямлі». Нельга не прайсці міма нацюрмортаў «Сырадой» і «Валошкі», прысвечаных Максіму Багдановічу.

Палотны Валерыя і Міхаіла Свістуновых ужо экспанаваліся ў Германіі, Польшчы, Францыі і іншых краінах свету. Але на ліпеньскай выстаўцы ў мінскім Палацы мастацтваў творы братоў-мастакоў зліліся ў адну экспазіцыю і дасягнулі жаданай еднасці, гарманічнасці, сугучча, аб'яднаўшы высокі прафесіяналізм і бязмежную закаханасць у хараство зямлі беларускай.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Без гламуру


*Фота Кастуся Дробава*

Фотавыстаўка «TimeBox. Скарбонка часу» маладой мастачкі Вольгі Савіч праходзіць у малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Галоўным крытэрыем пры адборы здымкаў была адсутнасць людзей, а таксама імкненне зняць горад гэтак, каб не адчувалася прыкмет канкрэтнага часу. Экспазіцыю ўжо бачылі ў Францыі, а ў Беларусі паказваюць упершыню.

Праект радыкальна адрозніваецца ад большай часткі візуальнай інфармацыі, што сустракаецца нам у штодзённасці: ні гламурных колераў, ні банальна прыгожых вобразаў тут няма. На здымках — фрагменты архітэктуры Мінска, але пафасныя пабудовы «сталінскага ампіру» застаюцца па-за кадрам. Мастачка фіксуе тое, што звычайна ўхіляецца ад позірку: цені, расколіны, нечаканыя спалучэнні форм і фактур. Ва ўзаемадзеянні з фатаграфічнай плёнкай яны набываюць новае жыццё.

Аб'ектыўнасць слядоў, якія час пакідае на камянях, спалучаецца з аб'ектыўнасцю фотакамеры, і з гэтага паўстае аповед пра суб'ектыўнасць у чыстым выглядзе, пра адсутнасць людзей, пра тое, што ўсё непазбежна адыходзіць у нябыт.

— Гэта мая спроба разам з людзьмі і самой усвядоміць крыху з іншага боку тую прастору, у якой мы існуем, якую бачым і адчуваем кожны дзень, — адзначае сама мастачка.

На здымках — канкрэтны горад, але няма прыкмет канкрэтнага часу. Гэта могуць быць і 1970-я, і 1990-я гады, а можа, і 2040-я. Вольга Савіч паказвае ў сваім праекце пазачасавасць — тэрыторыю не толькі тых, хто адышоў, але і тых, хто адыдзе, — трывожную, няўлоўную прастору, што лучыць усіх нас.

Фотамастачка знарок не выкарыстоўвае яркіх колераў. Назваў творам яна адмыслова не дае — акрэслівае толькі агульным словам «сляды». Для аўтаркі важнымі з'яўляюцца найперш нечаканыя спалучэнні форм і гульня ценяў. Такім чынам яна хоча прымусіць наведвальніка адчуваць і разважаць.

Куратарка выстаўкі Ірына Герасімовіч заўважыла: «Усе гэтыя здымкі вучаць бачыць свет інакш, а менавіта, звяртаць увагу на сляды, якія пакідае час. Праект патрабуе ад свайго гледача тонкасці і мужнасці адначасова, даючы магчымасць дакрануцца да ўласнай хісткасці ды адчуць яе рафінаваную прыгажосць».

Выстаўку можна пабачыць да 24 жніўня.

**Таццяна ШЫМУК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2586
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.08.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3381
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686